Год выданьня 66. № 614, Красавік - Травень 2015 г. Жыве Беларусь!



# БЕЛАРУС



ISSN 1054-9455

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World
Published by the Belarusan American Association, Inc.

Address: 166-34 Gothic Drive
Jamaica, NY 11432, USA
E-mail: bielarus@bazahq.org

***Шаноўныя чытачы!***

Перад вамі чарговы нумар нашай газэты за красавік-травень бягучага году. Час ад часу па нашых магчымасьцях мы вымушаныя выпускаць здвоеныя нумары газэты.

У красавіку-траўні адбылося шмат адметных падзеяў ў жыцьці беларускай дыяспары і на нашай Бацькаўшчыне. У красавіку мы адсьвяткавалі Вялікдзень у беларусіх цэрквах, потым адзначылі чарнобыльскую гадавіну. У траўні Беларусь сьвяткавала 70-ю гадавіну перамогі ў мінулай сусьветнай вайне. У Беларусі адбыўся чарговы сусьветны кангрэс беларусістаў, які павінен быў стаць крокам наперад у разьвіцьці беларусістыкі, але, як выглядае, не стаў.

Таксама мы падаем для вас іншыя патрэбныя і магчыма цікавыя для нашых чытачоў інфармацыі, аналітычныя матэрыялы і занатоўкі.

На жаль, беларуская дыяспара за гэты час панесла вельмі адчувальныя страты ў сувязі з адыходам у вечнасьць вядомых актыўных дзеячаў - а. Аляксандра Надсана, сп. Аляксандра Міцкевіча, сп. Цупрык-Жылінскай. Інфармацыі пра гэтыя сумныя падзе мы таксама падалі ў гэтым нумары.

Як заўсёды, друкуем Каляндар памятных датаў і чарговы раз выказваем шкадаваньне, што ён амаль зусім не выкарыстоўваецца ў грамадзкім жыцьці беларусаў ЗША. У суполках не адзначаюцца выбітныя даты і імёны, якія варта ўзгадваць у сувязі з юбілеямі.

Маладой эміграцыі нагадваем пра існаваньне беларускай газэты і пра патрэбу ахвяраваньняў на яе выданьне. Наш аналіз паказвае, што газэту падтрымлівае пераважна старэйшая эміграцыя. Маладзейшыя часам лічаць, што ім дастаткова прачытаць газэту ў інтэрнэце і не патрэбны папяровы выпуск. Нагадаем, што "напісанае застаецца" пераважна на матэрыяльных носьбітах, а не ў віртуальнай прасторы. Гэтак мы больш надзейна захаваем гісторыю беларускай дыяспары ў Амэрыцы.

***Рэдакцыя***

## Велікоднае архіпастырскае пасланьне архіяпіскапа Логіна, першагерарха Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы.

***Годнаму сьвятарству й вернікам Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, якія жывуць на Бацькаўшчыне й на Чужыне.***

*«Па тым пазнаюць усе, што вы мае вучні, калі будзеце мець любоў між сабою.» (Ян. 15:12)*

***Дарагія браты й сёстры ў Хрысьце !***

Віншую вас з найвялікшым сьвятам — Уваскрасеньнем Хрыстовым! Сьвяткаваньне Вялікадня штогод прымушае нас задумацца пра значэньне гэтай падзеі для ўсіх нас, і якімі пасьлядоўнікамі Хрыста ёсьць мы цяпер. Ахвяраю Хрыста быў пераможаны грэх і адноўлены ў чалавеку вобраз Божы, і мы атрымалі жыцьцё вечнае і веру, мацнейшую за пакуты.

Але мала верыць у Васкрослага Хрыста, трэба самому ахвяраваць і змагацца ў сваёй душы, каб дасягнуць хрысьціянскія каштоўнасьці, тады душа такога хрысьціяніна яднаецца з Богам.

Як без Хрыстовае ахвяры не было б Ягонага Ўваскрасеньня, так і без нашае ахвяры Госпаду ня можна наблізіць нашы душы да Яго.

Часам некаторыя ня хочуць жыць па законах дабра, а толькі прыкрываюцца Хрыстовай верай, зь



нянавісьцю адносяцца да іншых краінаў і народаў, не разумеючы, што Хрысьціянства — гэта любоў.

Беларускі народ, як і іншыя народы, можа найлепей разумець і выяўляць хрысьціянскую веру паводле сваіх нацыянальных асаблівасьцяў, якія ён атрымаў ад сваіх дзядоў. Менавіта таму мы павінны захоўваць сваё нацыянальнае багацьце і на гэтых духоўных скарбах будаваць сваю будучыню, з павагаю адносячыся і да чужога.

Любіць Госпада — значыць любіць блізкага, а любіць блізкага — значыць адносіцца да яго так, як бы ты адносіўся да самога Госпада.

І тады вельмі актуальным і ў наш час, як дзьве тысячы гадоў таму, будзе Вялікоднае віншаваньне:

Хрыстос Уваскрос! — Сапраўды Ўваскрос!

Зь любасьцю й малітвамі,

***Архіяпіскап+ Сьвятаслаў, першагерарх БАПЦ***
*Вялікдзень, 2015 л.Б.*

## Вялікдзень у Нью-Ёрку

Сёлетні Вялікдзень быў досыць раньнім - 12 красавіка. Як заўсёды, Парафія Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ у Нью-Ёрку загадзя рыхтавалася да Сьвята. Набылі вербачкі і ўпрыгожылі царкву да Вербніцы, а потым усе сілы скіравалі на годнае ажыцьцяўленьне праграмы сьвяточных Багаслужбаў у апошні тыдзень перад Уваскрасеньнем Хрыстовым. Парафіяльная рада з удзелам Уладыкі Сьвятаслава склала расклад Вялікодных Багаслужбаў і ў час даслала парафіянам.



Таму Багаслужбы адбываліся з удзелам вернікаў, хаця праходзілі яны ў вечаровыя часы пасьля працоўнага дня.



Сястрынства Парафіі падрыхтавала ўсе патрэбныя рэчы для правядзеньня Багаслужбаў, старэйшая сястра Тацьцяна Красоўская выпекла артос, просьвіркі. Ала Караткевіч набыла цудоўныя кветкі і ўпрыгожыла царкву да Сьвята.

Вялікодную Багаслужбу правёў а. Іван з удзелам дыякана а. Мікалая і маладога памочніка Аляксандра. Прыгожа выглядаў стол у грамадзкай залі, застаўлены кошыкамі з фарбаванымі яйкамі і іншымі прысмакамі да сьвяточнага стала. Усё гэта было асьвечана сьвятаром у прысутнасьці прыхажанаў. Па заканчэньні Багаслужбаў парафіяне сабраліся каля агульнага стала, каб разам разгавецца асьвечанымі яйкамі і рознакалярова ўпрыгожанымі пірагамі-пасхамі а таксама пасмакаваць прыгатаваныя сястрынствам смачныя стравы.



Як заўсёды ў душы была радасьць і гонар за тое, што маем тут на чужыне сваю беларускую царкву, што ў Вялікодную ноч сьвяціліся вокны наша храму і гучаў вокліч "Хрыстос Уваскрос! Сапраўды Уваскрос!"

***Валянціна Ганчар***



# Беларусы Саўт-Рывера ўрачыста сьвяткавалі Вялікдзень

Першы дзень Вялікадня ў Саўт-Рыверы (Нью-Джэрсі), дзе жывуць некалькі сотняў беларускіх сем'яў, прайшоў у добрым настроі ды пры цудоўным сонечным надвор'і.

На асьвячэнні велікоднай ежы ўвечары ў суботу было шматлюдна. Дзея адбывалася ў зале грамадзкага цэнтра. Трэба адзначыць, што сёлета на асвячэнні было значна больш людзей, чым летась, бо лік навасёлаў з Беларусі ў горадзе няспынна расце.

# Чарнобыльская гадавіна ў Нью-Ёрку

**У нядзелю 26-га красавіка ў грамадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага беларуская грамада Нью-Ёрку адзначыла чарговыя ўгодкі Чарнобыльскай трагедыі. Некаторых з прысутных гэтая катастрофа закранула непасрэдна, альбо праз родных, блізкіх, сяброў, якія пакутуюць на розныя хваробы, ці мусілі пакінуць родныя мясьціны, забруджаныя радыяцыяй.**



З інфармацыяй пра небясьпечныя наступствы для беларускай нацыі насьледкаў узьдзеяньня чарнобыльскага попелу і пра тое, як у той час уладамі замоўчвалася праўда пра аварыю, распавёў сп. Зянон Пазьняк. Пад ягоным кіраўніцтвам Беларускі Народны Фронт зрабіў неверагодна шмат, каб праўда пра Чарнобыльскую бяду была данесена да насельніцтва Беларусі, каб прымусіць дзяржаўныя структуры займацца справамі Чарнобыля, каб здабыць для Беларусі дапамогу дзеля ліквідацыі наступстваў катастрофы ад сусьветнай супольнасьці, каб узьняць гэтую тэму на міжнародны ўзровень. У зале прысутнічала пераважна моладзь з новай эміграцыі, якая не можа памятаць тыя часы і якая не атрымала ў Беларусі дастатковых зьвестак пра Чарнобыль. Для іх гэта была надзвычай патрэбная інфармацыя.

Удзельнікі імпрэзы ў гэты дзень мелі магчымасьць таксама пазнаёміцца з гасьцямі з Нямеччыны. Там цяпер жыве маладая беларуская сям'я Ганны Васілевіч і Кірыла Касьцяна. Кірыл Касьцян скончыў у Менску факультэт міжнародных адносінаў БДУ і цяпер зьяўляецца галоўным рэдактарам часопісу "Belarusian Review". Гэтую пасаду ён пераняў ад сп. Юркі Станкевіча, які памёр у мінулым годзе. Сп. Кірыл распавёў пра сітуацыю з выданьнем часопіса, а таксама падзяліўся сваімі меркаваньнямі наконт палітычных падзеяў вакол Беларусі і Украіны. Ён сам нядаўна вярнуўся з Украіны і на сваё вочы мог пабачыць, што там адбываецца. Прысутныя вельмі актыўна цікавіліся выступам і задавалі шмат пытаньняў сп. Кірылу.

Сп. Ганна Васілевіч таксма прамовіла і паведаміла, што яна працуе праэкт-мэнэджэрам у Нямеччыне ў "European Center for minority issues". У Нью-Ёрку Ганна ўжо наведвала раней наш беларускі цэнтр, і нам было прыемна зноў сустрэцца з ёю.

***Ганна Сурмач***

# Беларусы ЗША сустрэліся з памочнікам дзяржсакратара

***Прадстаўнікі Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА) сустрэліся 29 красавіка з Эрыкам Рубіным.***

У ходзе гутаркі былі абмеркаваны лютаўская паездка Рубіна ў Мінск, перспектывы разьвіцця двухбаковых адносін і пазыцыя ЗША па «выбарах» у Беларусі.

Валеры Кавалеўскі расказаў пра дадатковыя дэталі сустрэчы ў інтэрв'ю «Радыё Свабода».

***- Хто ад дыяспары быў на сустрэчы са спадаром Рубіным?***

- На сустрэчы былі Алеся Кіпель - старшыня Вашынгтонскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, яе намесьнік Вячаслаў Бортнік, Ірына Красоўская - кіраўнік арганізацыі "Мы памятаем", і я.

***- А што прадстаўнікі дыяспары казалі амэрыканскаму дыплямату, што прапаноўвалі, на чым, магчыма, настойвалі?***

- Мы ўздымалі тэмы, якія для нас вельмі важныя. Перш за ўсё, гэта пытаньне палітычных вязьняў.Таксама пытаньне зьніклых палітыкаў і грамадзкіх дзеячаў. Мы спыталі спадара Рубіна, ці абмяркоўваў ён гэтае пытаньне пад час сустрэчы з Лукашэнкам. Нас таксама цікавіла, абмяркоўваюцца гэтыя тэмы амерыканскім бокам з беларускімі чыноўнікамі ў ходзе працоўных кантактаў.

***- А закраналася тэма ўзгадненьня пазіцый ЗША і Эўразьвязу?***

- Спадар Рубін сказаў, што ЗША будуць назіраць за тым, як будуць праходзіць «выбары» у Беларусі, і будуць каардынаваць сваю пазіцыю з эўрапейцамі. Амэрыканцы заўсёды падкрэсліваюць, што каардынуюць сваю пазіцыю з эўрапейцамі.

***- Некаторыя мяркуюць, што пэўны час адносіны амэрыканскіх парлямэнтарыяў і беларускай дыяспары знаходзіліся на даволі нізкім узроўні. Цяперашняя сустрэча са спадаром Рубіным - гэта новая старонка ў адносінах або прадстаўнікі ўрада, дзяржпэпартамэнта даволі часта сустракаюцца з прадстаўнікамі беларускай дыяспары?***

- Мы даволі часта сустракаемся з амэрыканскімі чыноўнікамі: гэта і сустрэчы ў Дзяржпэпартамэнце, гэта і незапланаваныя сустрэчы з супрацоўнікамі адміністрацыі прэзідэнта ЗША, часта сустрэчы праходзяць у Кангрэсе. Сустрэчы ў Дзярждэпартамэнце адбываюцца даволі часта. Узровень Эрыка Рубіна даволі высокі, але сустрэча з ім - гэта не нейкае унікальнае падзея.

***- А ў якой ступені пажаданьні і рэкамэндацыі беларускай дыяспары ўвасабляюцца ў палітыцы ЗША ў дачыненьні да Беларусі?***

- У нас няма ніякіх непаразуменьняў пад час такіх сустрэч, нашы пазыцыі шмат у чым падобныя.


Ірына Красоўская

Разам з тым мы разумеем, што ў Злучаных Штатаў ёсць свае інтарэсы, свая кропка гледжаньня на падзеі ў Беларусі. Мы рады тым, што ўрад ЗША шмат у чым падзяляе нашу пазыцыю. Але, мы разумеем, што тактычныя меркаваньні могуць патрабаваць іншых рашэньняў.

# 75-я ўгодкі Украінскага Кангрэсавага камітэта

Украінскі Кангрэсавы камітэт належыць да найбольш вядомых і актыўных грамадзкіх арганізацый украінскай дыяспары ў ЗША. Сёлета свой юбілей Камітэт адзначаў 20 траўня ў Вашынгтоне, у залі - US Capitol Building, Senate Visitor's Center.

Наш Беларускі Кангрэсавы камітэт і іншыя беларускія арганізацыі раней шмат кантактавалі і супрацоўнічалі з украінскім Кангрэсавым камітэтам. Потым гэтыя кантакты станавіліся ўсё менш актыўнымі і амаль зусім перапыніліся. Апошнім часам БАЗА аднавіла гэтае супрацоўніцтва з Камітэтам праз сумесную дзейнасьць ў Амэрыканска-Эўрапейскім камітэце салідарнасьці, створаным больш году таму. Прадстаўнікі БАЗА былі афіцыйна запрошаныя на сьвяткаваньне. Беларускі бок там прадстаўляў сябра Гуртка БАЗА ў Вашынгтоне Валер Кавалеўскі. Ён даслаў наступную інфармацыю пра ўрачыстасьць:

"Мерапрыемства праходзіла ў фармаце мітынгу а-ля фуршэт. Узровень прамоўцаў быў досыць высокі: кангрэсмэны, шмат украінскага духавенства, намесьнік міністра замежных спраў Украіны, намеснік памочніка дзяржсакратара ЗША ў справах Еўропы і Еўразіі Эрык Рубін, былыя амбасадары і шмат хто яшчэ. Магчыма таму, што прамоўцаў было вельмі шмат, прадстаўнікам этнічных груп слова не прапаноўвалі. Зьмест выступаў - віншаваньні Камітэту, абяцаньні падтрымкі для Украіны, заклікі да салідарнасьці і паставак зброі.

Мне дзякавалі за беларускую прысутнасьць прадстаўнікі украінскіх арганізацый".

# Юбілей перамогі адзначылі звонам зброі

**Сёлетняя 70-я гадавіна перамогі над фашысцкай Нямеччынаю была скарыстаная ўладамі Расеі і нашай Беларусі напоўніцу дзеля падвышэньня іміджу сучасных уладаў абедзвюх так падобных сёньня палітычнымі рэжымамі краінаў, а найперш, дзеля запалохваньня ўсяго сьвету.**



У Маскве адбыўся грандыёзны вайсковы парад, які быў прызначаны дэманстраваць непераадольную мілітарную моц Расеі. Праўда, падвёў адзін самы тэхналягічна перадавы танк, які нечакана заглох.

Бальшыня запрошаных высокіх гасьцей з розных краінаў сьвету не прыехалі ў Маскву ў знак пратэсту супроць вайны ва Украіне. Які адэкватны чалавек мог нармальна ўспрымаць гэтыя бутафорныя ўрачыстасьці ў краіне, што разьвязала крывавую вайну супраць суседняй Украіны і тым самым зглуміла, растаптала тую сістэму захаваньня міру ў Эўропе, якая была створаная пасьля перамогі над фашызмам краінамі-пераможцамі, саюзнікамі ў той вайне, каб не магла ўзьнікуць новая бойня. Сярод іх быў і Савецкі Саюз, чым спаткаемцам лічыць сябе Расея.

Аляксандр Лукашэнка зладзіў свой вайсковы парад, таму ў Маскве 9 траўня таксама не прысутнічаў, але перад гэтым 8 траўня пабываў там з візытам, імкнуўся, як заўсёды, усесьціся на дзьве лавы.

Адметнасьцю менскага параду, які прымалі "маршалы" Аляксандр і Міколка Лукашэнкі, сталася значная прысутнасьць на ім расейскіх вайскоўцаў і тэхнікі. Гэта была трацінa ўсіх удзельнікаў параду, такога не назіралася ніколі раней.

Не можам сьцьвярджаць дакладна, але ад неабыякавых беларускіх грамадзянаў давялося чуць, што гэтыя парадныя расейскія вайскоўцы назад у Расею не вярнуліся, а засталіся на вайсковых базах у Беларусі і папоўнілі расейскую ваенную прысутнасьць у нашай краіне. Гэтак вось выглядала гадавіна перамогі ў мінулай вайне, калі замест той акупацыі, адбываецца новая, скрытая ад грамадзтва, без усякага супраціву, а са згоды ўладаў.

Другая сусьветная вайна была самай вялікай да нашага часу сусьветнай бойняю, у якой загінулі мільёны людзей. Ці не варта было б ушанаваць іх памяць больш прыстойна і годна, спакойна і паважліва. А не дэманстрацыяй новай яшчэ больш згубнай зброі, якая здольная забіць яшчэ больш людзей, ці ўвогуле зьнішчыць нашу цывілізацыю і ўсё жывое на Зямлі. Зброя не павінна дэманстравацца як сымбаль сілы і гонару, а толькі як неабходны сродак абароны, а не агрэсіі. Гэта некалі ў Савецкім Саюзе паўсюдна стаўлялі на дарогах і плошчах танкі ды самалёты ў якасьці помнікаў, што выклікала жах у заходніх турыстаў.

Безумоўна, у гэтыя вясновыя юбілейныя дні трэба было ўзгадаць тыя трагічныя часы. Асабліва, у нашай Беларусі, дзе загінуў, як сьведчаць больш дакладныя лічбы, кожны трэйці жыхар, а колькі загінула па-за межамі краіны. Трэба ўшанаваць іх памяць і ўсіх прадстаўнікоў нацыяў і народаў, хто браў удзел у вайне і не дажыў да сьветлага дня перамогі, дзеля таго, каб не было новых войнаў. Трэба падзякаваць ім, што не дапусьцілі тады распаўзаньня фашызму на плянэце. Не дапусьціць гэтага сёньня - ужо наша задача.

*Ганна Сурмач*

# Кангрэс Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў

**27-28 траўня ў Менску праходзіў шосты кангрэс Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў (МАБ). Кангрэс адбываецца раз на пяць гадоў. Першае пасяджэнне Асацыяцыі было праведзена ў 1990 годзе ў Менску. Сёлета асноўныя пасяджэнні адбыліся ў Інстытуце гуманітарных навук і мастацтва Акадэміі Навук. Кангрэс наведалі дасьледчыкі з 14 краінаў: суседзяў Беларусі, таксама Брытаніі, Германіі, Японіі, Венгрыі...**

Агульную арганізацыю і каардынацыю на Кангрэсе ажыццяўляў малады энэргічны намеснік старшыні Нацыянальнай бібліятэкі і МАБ, кандыдат культуралогіі Алесь Суша. Сушу ў выніку і абралі новым кіраўніком Асацыяцыі.

Зоркаю кангрэса была японка Сіеры Кіесава з Цукубскага ўніверсітэта. Сіеры вывучае беларускую больш за два гады, да таго ж — расійскую і польскую мовы, самастойна імкнецца вывучаць украінскую. Дзяўчына прыехала на кангрэс з дакладам пра праблемы і перспектывы вывучэння беларускай мовы ў Японіі. Яна марыць калі-небудзь скласьці японска-беларускі размоўнік. Сама яна ўжо даволі добра і правільна размаўляе па-беларуску.

Пры адкрыцьці Кангрэсу ўдзельнікаў віталі старшыня Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Міхаіл Касьцюк, акадэмік-сакратар Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі Аляксандр Каваленя, міністр культуры Барыс Сьвятлоў, міністр адукацыі Міхаіл Жураўкоў.

Сёлетні кангрэс, як выглядала, праходзіў пад патранатам дзяржаўных структураў. Абраньне новым старшынём МАБ намесьніка дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі ў сучаснай сытуацыі сьведчыць пра тое, што дзяржава бярэ пад свой кантроль дзейнасьць гэтага раней незалежнага аб'яднаньня. Доказам таму ёсьць і той факт, што на сёлетні кангрэс не былі запрошаныя знаныя беларусісты з Амэрыкі і Канады. Вядома, што ў гэтых краінах доўгі час дзейнічаюць Інстытуты беларускай навукі і мастацтва, якія шмат зрабілі ў галіне беларусістыкі ў замежжы. Аднак, на гэтым кангрэсе іх прадстаўнікі сталіся непажаданымі.

*Ганна Сурмач*

# Рада БНР: у выніку вайны Беларусь не атрымала свабоды

**Рада Беларускай Народнай Рэспублікі прыняла Заяву з нагоды 70-годдзя заканчэньня Другой сусьветнай вайны:**

"70 гадоў таму, у ноч з 8 на 9 траўня 1945 г., быў падпісаны Акт пра капітуляцыю гітлераўскай Нямеччыны, і ў Эўропе афіцыйна скончылася Другая сусьветная вайна.

У вайне загінула больш за чвэрць жыхароў Беларусі. Гэтая лічба ўключае загінулых з усіх бакоў фронту, а таксама ўсіх загінулых цывільных жыхароў. Істотную частку ахвяраў (да 800 тысяч) склалі беларускія габрэі, якіх нямецкія нацысты мэтанакіравана вынішчалі.

Вайна пачалася для Беларусі ў верасьні 1939 году, калі нацыстоўская Нямеччына і сталінскі СССР пасьля падпісаньня Пакту Молатава-Рыбэнтропа ўдвох напалі на Польшчу, і на ўсіх этапах суправаджалася масавым тэрорам супраць мірнага насельніцтва з усіх бакоў канфлікту.

Перамога над нацыянал-сацыялістычнай Нямеччынай, важны ўнёсак у якую зрабілі беларусы, ратавала мільёны людзей ад прамой пагрозы фізычнага вынішчэньня. На жаль, у выніку вайны Беларусь не атрымала свабоды, але на амаль 50 гадоў засталася пад савецкай акупацыяй, якая суправаджалася русіфікацыяй і рэпрэсіямі супраць іншадумцаў, у тым ліку супраць прыхільнікаў дзяржаўнага сувэрэнітэту Беларусі.

Чалавецтва павінна шанаваць памяць ахвяраў Другой Сусьветнай Вайны і зрабіць усё, каб такая вайна ніколі больш не паўтарылася".

# Ямайская зорка рэгі Этана падтрымала Мікалая Статкевіча

Співачка перадала незламанаму палітыку ліст са словамі падтрымкі. Пра гэта "Беларусу" паведаміў праваабаронца Вячаслаў Бортнік, які сустрэўся са спявачкай на прыёме ў Кангрэсе ЗША 19 траўня. У сваім звароце спявачка напісала: «Мікалай, яны не могуць скарыць твой дух і ўнутраную сілу. Трымайся. Этана».




Этана - другая зьлева

# Сьветлай памяці Алеся Міцкевіча



(15 лістапада 1919 – 28 красавіка 2015)

28 красавіка 2015 году на 96-ым годзе жыцьця памёр у Нью Ёрку адзін з найстарэйшых вэтэранаў беларускага руху на эміграцыі АЛЕСЬ МІЦКЕВІЧ - пляменьнік Якуба Коласа. Пахаваны 2-га траўня на беларускіх могілках у Іст-Брансвіку, ў Нью Джэрзі.

Алесь Міцкевіч вызначыўся як вядомы беларускі грамадска-культурны, сьвецкі і рэлігійны дзеяч у ЗША, сябар Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, настаўнік і асьветнік. Нездарма Менская суполка імя Сьвятой Афрасіні Полацкай БАПЦ ўзнагародзіла яго ў 2009 годзе сваім першым медалём "Айцы-асьветнікі Ян Грыгаровіч і Ўладзіслаў Чарняўскі" за ягоную нястомную асьветніцкую, зьбіральніцка-арганізацыйную, стваральна-кіроўную працу на цыянальным жыцьці і дзейнасьці беларускай дыяспары.

Нарадзіўся с. п. Аляксандар Іванавіч Міцкевіч 15 лістапада 1919 году. г. ў Горлаўцы на Данеччыне (Украіна), дзе бацькі Іван і Міхаліна Міцкевічы апынуліся ў бежанстве пад час Першай усясьветнай вайны. Пасьля сямья вярнулася на Радзіму ў Мікалаеўшчыну на Стаўпеччыне.

Ягоная маці Міхаліна даводзілася роднай сястрою народнаму пісьменьніку Якубу Коласу - Міцкевічу Канстанціну Міхайлавічу.

Усё сваё сьвядомае жыцьцё спадар Алесь прысьвяціў служэньню народу Літвы-Беларусі як на Бацькаўшчыне, так і на чужыне, пачаўшы сваю асьветніцкую працу настаўнікам пачатковай школы ў вёсках Жыгалкі і Крамец на роднай Стаўпеччыне. Але з-за пaverтаньня ў Заходнюю Беларусь-Літву маскоўска-нквдоўскай улады змушаны быў падацца ў эміграцыю (Аўстрыя, Францыя, Бельгія і нарэшце Злучаныя Штаты Амерыкі), дзе жыў, працаваў і дзейнічаў, як некалі ягоны славуты аднапрозвішчаньнік Адам Міцкевіч на эміграцыі ў Парыжы, як і ягоны старэйшы родны брат Валяньцін Міцкевіч (1918-2005), як і ягоны родны дзядзька Міхась Міхайлавіч Міцкевіч (1897-1991), вядомы на эміграцыі як Антон Галіна, пісьменьнік, публіцыст і перакладчык "Сьвятой Біблі. Кнігі Сьвятога Пісьма Старога й Новага Закону з мовы гэбрэйскае а грэцкае на вялікалітоўскую (беларускую) нанава перакладзеныя" і ў 1970 і 1973 гадох у Нью Ёрку выдадзеныя.

С. п. Алесь Міцкевіч спрычыніўся да стварэньня Беларуска-Амерыканскага дапамогавага камітэту; ён быў 15 гадоў (1982 -1997) сябрам і старшынём Ньюёрскага аддзелу Беларуска-Амерыканскага Задзіночаньня (БАЗА). Ён вызначыўся і як шчыры вернік-прыхільнік сваёй нацыянальнай царквы - Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, калі быў радным і старшынём (1979-1981) царкоўнай рады ў Катадральным саборы імя Сьвятога Кірылы Тураўскага ў Брукліне (Нью Ёрк).

Спадар Алесь Міцкевіч праявіў сябе і як сапраўды выдавец двухтыднёвіка БАЗА "Весткі і паведамленьні" (1982-1997), як руплівы распаўсюджвальнік сярод жыхароў Новага Ёрку і яго наваколля штомесячнага машынапіснага "Цыркуляру" (1996-1997), а на працягу многіх гадоў рассылаў газету беларускай эміграцыі "Беларус" па краінах рассяленьня ў замежжы нашых беларусаўліцьвінаў. Ягоная самаадданая дзейнасьць на карысьць суайчыньнікаў праяўлялася і ў тым, што ён заставаўся неадменным скарбнікам усіх вышэй згаданых арганізацыяў. Актыўна зьбіраў ён і сродкі на дапамогу пацярпелым ад чарнобыльскай катастрофы землякам на Бацькаўшчыне.

Зь ягоным пасьлядоўным зьбіральніцтвам матэрыялаў і дапамогаю паўстала з друку бібліяграфічная кніга пра нашу эміграцыю "Беларускі і беларусаведны друк на Захадзе" Зоры і Вітаўта Кіпеляў (1999).

Менская суполка імя Сьвятой Афрасіні Полацкай БАПЦ выказвае сваё спачуваньне жонцы нябожчыка спадарыні Тарэсе, дочкам Марыі й Яланьце і ўнуку Юзіку-Джэймсу.

*Ад імя Сьвята-Афрасінінскай суполкі зь Менску Літоўскага*

***а. Леванід Акаловіч***

# ШЛЯХ ПАТРЫЁТА

## (Успамін пра Алеся Міцкевіча)

З Алесем Міцкевічам я пазнаёміўся ў сярэдзіне 1950 году ў Лювэне (Бэльгія), куды ён прыехаў з Францыі. Адразу ён запісаўся ў Лювэнскі ўнівэрсытэт на факультэт філязофіі, аднак праз сымэстар-другі са "студэнцтва" выйшаў, бо і навуку (прадметаў 5-6) трэба было "падганяць", і гады былі ня тыя для студэнта-пачаткоўца. Ад школы-навукі Алесь адыйшоў у 1930-х гадох, калі яго ўзялі ў польскую армію.

У Лювэне Алесь узяўся за канцылярскую працу, але даўжэйшы час жыў у беларускім студэнцкім доме. Зь першых месяцаў побыту ў Бэльгіі ён вельмі актыўна ўлучыўся ў грамадзкую працу, найбольш у дзялянцы Саюзу Беларусаў Бэльгіі, але таксама дапамагаў вэтэранам, а найбольш а. Аўгену Смаршчку ў наладжваньні цакоўных службаў у беларускіх (і ня толькі беларускіх) работніцкіх асяродках.

Пра сябе Алесь гаварыў вельмі мала, хоць на першы азнаямляльным сходзе са студэнтамі сказаў, што ён зь Мікалаеўшчыны, Стаўпечына ягоная малая радзіма, а ён – з роду Міцкевічаў, радня Якуба Коласа, ды што ў Францыі жыве ягоны брат Валянцін, а ў ЗША атайбаваўся ягоны дзядзька Міхась Міцкеіч, брат Якуба Коалса, ды што дзядзька заклікае абодвух пляменьнікаў, Валянціна й Алеся, прыехаць на пасяленьне ў Злучаных Штатах. Гэта была ўся ягоная "біяграфічная аповесьць". Але паколькі я быў таксама актыўна ўцягнуты ў працу Саюзу Беларусаў Бэльгіі (быў заступнікам старшыні), дык з Алесем бадай штодня езьдзілі разам на "правінцыі" ў беларускія работніцкія асяродкі, і гэтак па пару слоў ён расказваў больш пра сябе.

Здабыў Алесь пачаткі адукацыі ў Стоўпцах у сярэдзіне 1930-х гадоў. Думаў пайсьці вучыцца далей (хацеў быць настаўнікам), але яго мабілізавалі ў польскае войска. Служыў у шмат якіх мясьцінах у цэнтральнай Польшчы, а вайна 1939 году засьпела яго ў Варшаве. Каля трох тыдняў быў літаральна ў баях зь немцамі на подступах да Варшавы. Трапіў да немцаў у палон, і немцы наважваліся выслаць яго разам зь іншымі палоннымі "варшавякамі" ў Нямеччыну на працу, але ён з палону ўцёк, падкапаўшы лазейку пад мэталёвай агароджай. Пешкам і найбольш начамі прабіраўся ў Беларусь. У Берасьці натнасьці, працуючы ў адміністрацыі й скончыўшы настаўніцкія курсы, Алесь з усімі Міцкевічамі перажылі часы савецкай акупацыі 1939-41 гадоў.

Час нямецкай акупацыі Алесь правёў у адміністрацыі раёну, дапамагаў аддзелу асьветы ў школьніцтве пакуль у 1944 г. ня быў мабілізаваны ў Беларускую Краёвую Абарону.

А далейшую біяграфічную дэталь я пачуў пры цікавых абставінах. На адной са зборак зь беларускімі работнікамі ў Льежы Алесь сустрэўся зь беларускім актывістам Міколам Калінкам (пахаваны на могілках сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры). Была гэта рапію на савецкіх жаўнераў, якія хацелі яго арыштаваць але, пачуўшы ягоную беларускую гаворку, адразу зьмянялі намер і сказалі "Иди быстрей домой!" ды пасадзілі ў першы таварны вагон цягніка, што йшоў у кірунку Стоўпцаў. На радзіме яго сустрэлі з радасьцю, але дзядзька Міхась ціхенька папярэдзіў: "Алесь, будзем асьцярожныя. Уладжвайся недзе пры школе – пабачым". У насьцярожанадзвычайная сустрэча! Справа ў тым, што і Мікола пра Алеся, і Алесь пра Міколу кожны думаў, што другі загінуў у зацятай перастрэлцы з партызанамі каля Стоўпцаў. Мікола там быў паранены, а Алеся мясцовы камандзір БКА адразу ж пасьля сутычкі з партызанамі адаслаў у Менск на афіцэрскія курсы. Ня ведаючы нічога адзін пра другога, "аднапалчане" думалі, што той другі загінуў. А тут раптам спатканьне з жывым і здаровым! Такія сустрэчы бываюць ня часта.

Далей нашы спатканьні з Алесем парадчэлі, бо мая праца над дактарам у Лювэне трымала мяне ў лябараторыі. Праўда, я ведаў, што Алесь дапамагае а. Аўгену наладжваць сталыя царкоўныя багаслужбы ў Льежы, Монсе, Шарлеруа. Бываў часта Алесь і ў Брусэлі, абладжваючы там беларускім работнікам эміграцыйныя справы праз Талстоўскі Фонд. Пачуў я аднойчы, што Алесь – жыў ён тады па-за Лювэнам – зьбіраецца выяжджаць у ЗША. І вось тут сталася забаўнае здарэньне. Я скончыў вучобу, атрымаў дактарат і пры дапамозе Талстоўскага Фонду змог выехаць у Амэрыку. На зборы для выезду мне было дазена тры дні! Я зараз жа сабраўся. Увесь багаж быў на мне. Уваходжу ў самалёт – транспартны Flying Tiger – і бачу: у самалёце сядзіць Алесь Міцкевіч! Так мы зь ім і ляцелі васямнаццаць гадзін да Нью Ёрку. Тады ён прадоўжыў мне свой аповед пра сябе – некалі перарваны расказ пра сустрэчу зь Міколам Калінкам.

БКА накіравала яго ў афіцэрскую школу ў Менск (1944 г.). Там ён, быўшы паранены, трапіў у вайсковы шпіталь, і разам са шпіталём яго эвакуявалі спачатку ў Ліду, тады ў Беласток, а ўрэшце ў Нямеччыну. Хутка перад канцом вайны ён са шпіталя выйшаў, але з моцна пакалечанай рукой. Калі скончылася вайна, Алесь быў у Аўстрыі. Там улучыўся ў беларускае грамадзкае жыцьцё, даведаўся, што ў вайну ўцалеў брат Валянцін, і Алесь перабраўся да яго ў Францыю, адкуль ён прыехаў у Бэльгію. За васямнаццаць гадзін лёту можа шмат чаго і пра сябе расказаць, і пра сураздмоўцу пачуць. Алесь раптам прабубнеў: "У цябе ж напэўна няма грошай, ты ж увесь час вучыўся." Гэта я пацьвердзіў: так, з грашыма ў мяне слабавата. А ён, неяк сарамліва-стрымана

Заканчэньне на 5-й бачыне

# Госьць з Прагі

Бруклінскі аддзел Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня разам з Freedom House 5 траўня 2015 арганізавалі ў Нью-Ёрку ў грамадзкай залі на Атлянтык Авэню 401 сустрэчу з вядомым беларускім грамадзкім актывістам і журналістам Франакам Вячоркам. Акрамя нью-ёркскіх беларусаў у залі прысутнічалі і прадстаўнікі Freedom House - Сьюзан Корк (Susan Corke), дырэктарка праграм па Эўразіі, якая працуе ў офісе ў Нью-Ёрку, і Софья Орлоскі (Sofya Orlosky) з Вашынгтону.

Франак Вячорка з нядаўняга часу працуе ў Празе настала ў Беларускай рэдакцыі Радыё Свабода. Ён ужо быў некалі госьцем нью-ёркскіх беларусаў і таму сябры Бруклінскага аддзелу БАЗА вельмі прыхільна яго віталі.

Франак - сын вядомага беларускага грамадзкакультурнага і палітычнага дзеяча Вінцука Вячоркі і Арыны Вячоркі, актыўнай удзельніцы новага беларускага Адраджэньня, якая заўчасна памерла ў 2012 годзе. Выгадаваны ў сьвядомай беларускай сям'і, Франак ад дзяцінства далучаны да беларускага жыцьця і працягвае справу бацькоў ужо ў сучасных складаных умовах і на сучасным узроўні. Разам з паплечнікамі ён шукае новыя накірункі беларускай працы, новыя формы ўздзеяньня на маладое пакаленьне з мэтай выхаваньня ў моладзі нацыянальнага пачуцьця. Гэтым разам ён распавядаў пра новую кампанію "Беларуская вышыванка", якая прыцягнула шмат людзей не толькі маладога, але і старэйшага ўзросту. Мэта кампаніі - зрабіць беларускую вышыванку модным брэндам. які можа быць не толькі апазнавальным знакам нацыянальнай сьведамасьці , але і сродкам далучэньня да нацыянальнай плыні шырокіх колаў беларускага грамадзтва. Вышыванка з'яўляецца тым сымбалям, які можа абудзіць забытае і затаптанае савецкай ідэалёгіяй нацыянальнае пачуцьцё, нагадае пра карані, пра тое, што нам ёсьць чым ганарыцца перад іншымі народамі, пакажа нашу самабытнасьць, нашу нацыянальную адметнасьць. Франак згадаў, што кампанія мае шмат прыхільнікаў, але таксама і крытыкаў, нават з боку вядомых нацыянальных аўтарытэтаў. Крытыкі выказваюцца супроць таму, што на іх думку, вышыванка цягне нас назад у мінулае, падкрэсьлівае нашу вясковасьць, што гэтая зьява недастаткова элітарная, і застаецца толькі абуць нас яшчэ ў лапці. Удзельнікі і прыхільнікі кампаніі ўсё ж, здаецца, перамагаюць, і вышыванка набывае ўсё большую папулярнасьць. Няхай гэта толькі модны брэнд, а не навукова вывераная мадэль, для масавага карыстаньня гэта можа быць прапанавана і, напэўна, не прынясе шкоды. Вядома, пагадзіўся Франак, што гэтая мода можа і прайсьці, але зробіць сваю справу. А потым давядзецца прыдумваць нешта новае.


Франак Вячорка дэманструе кашулю з вышыванкаю


Прамаўляе Сафія Орлоскі

Трэба адзначыць, што гаворка пра вышыванкі выклікала самую актыўную зацікаўленасьць прысутных. Задавалі пытаньні, выказвалі свае думкі, дзяліліся ўспамінамі пра вышыванкі, бачаныя ў сваіх бабуляў. Бальшыня падтрымала ідэю кампаніі, пыталіся, дзе можна набыць вышыванкі ў Беларусі, і ці ёсьць інфармацыя ў інтэрнэце.

Франак прывёз з Беларусі для узораў, а часткова і для продажу жадаючым нейкую колькасьць вырабаў і сам прадэманстраваў на ім модную кашулю з вышыванкаю, якая дужа пасавала да яго элегантнага клясічнага строю. Вырабы амаль што імгненна былі раскупленыя прысутнымі.

Сп. Вячорка ў другой палове сустрэчы прадэманстраваў прысутным, што сучасная беларуская моладзь працуе не толькі з традыцыйнымі каштоўнасьцямі, але і стварае новае ў мадэрновым мастацтве, цікавіцца накірункамі разьвіцьця сусьветнай культуры. Ён прэзэнтаваў ньюёркскім беларусам новы дакумэнтальны фільм пад назваю Made in BY, у здымках якога браў удзел і асабіста. Фільм зьняты італьянскім кінарэжысэрам Люіджы Мілярдзі. Фільм распавядае пра незалежную культуру Беларусі, і ўмовы яе існаваньня. Міжнародная прэм'ера стужкі адбылася 5-га сакавіка ў Празе на найбуйнейшым фэстывалі дакумэнтальных фільмаў пра правы чалавека One World Film Festival.

Пасьля прагляду таксама адбылася публічная дыскусія. Некаторыя выказвалі сваё захапленьне фільмам, які паказвае, што ў сёньняшняй Беларусі ёсьць таленавітая, адукаваная творчая моладзь. якая мае патэнцыял разьвіваць сучасную мадэрную культуру, але якая, нажаль, не мае належнай падтрымкі ў краіне, дзе пануе дыктатура ўчарашняга дня. Фільм складаецца з сэрыі інтэрв'ю з гэтымі людзьмі, якія ў бальшыні гаварылі па-ангельску, і гэта сьведчыць пра тое, што для іх, дзякуючы гэтай мове, адчынены сьвет, і яны могуць здабываць інфармацыю рознымі шляхамі. Праўда, прысутныя цікавіліся, ці валодаюць яны таксма і сваёй, беларускай моваю. Адказам на гэта пытаньне можна лічыць тое, што шмат хто з удзельнікаў фільму ёсьць пазнавальнымі асобамі ў беларускім нацыянальным руху. Варта дадаць, што сп. Вячорка быў сёлетнім другім госьцем з Прагі. Літаральна перад ягоным прыездам у Нью-Ёрку была цягам тыдню журналістка БЕЛСАТ Ганна Любакова, якая зараз часова праходзіць практыку ў Беларускай рэдакцыі Радыё Свабода. Яна таксама пакінула па сабе прыемныя ўражаньні, як асоба і журналістка.

Прыемна было пабачыць, што ў беларускай незалежнай журналістыцы ёсьць моладзь, якая годна прадстаўляе сваю прафесію і абсалютна арыентаваная на нацыянальныя беларускія інтарэсы, якія разумее з глыбокай адказнасьцю.

*Ганна Сурмач*

*Заканчэньне з 4-й бачыны*

кажа: "Я табе пазычу сто даляраў – некалі аддасі." Такі быў Алесь Міцкевіч! За гэтыя сто даляраў я езьдзіў з Пасэйку ў Нью Ёрк шукаць працу добрых разоў 50-60, бо білет да Нью Ёрку каштаваў даляр і пяць цэнтаў.

Пасьля прыезду ў ЗША пад каталіцкія Каляды 1955 году, мы з Алесем сустракаліся часта. Я цаню ягоную грамадзкую дзейнасьць. Ён належаў да галоўнага кіраўніцтва БАЗА, старшыняваў у мясцовым аддзеле БАЗА, быў удзельнікам-арганізатарам дзясяткаў "Парадаў ляяльнасьці", у часы вялікіх беларускіх фэстываляў (1976-1979 гг.) распродваў сотні квіткоў небеларусам у сябе на працы, а найбольш часу аддаваў жыцьцю парафіі сабру БАПЦ сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне (401 Атлантык Авэню). Алесь уваходзіў у склад рэдкалегіі газэты "Беларус", акуратна рассылаў газэту за межы ЗША. Вялікая адказнасьць! Шмат гадоў выдаваў і рассылаў інфармацыйны бюлетэнь ньюёрскага аддзелу БАЗА "Весткі й паведамленьні", які быў пазьней пераняты маладзейшымі актывістамі (Маратам Клакоцкім), чым Алесь асабліва радваўся. Ён быў з такіх дзеячоў-мавікоў, якія адзначаюцца адказнасьцю, дбаюць, каб суродзічы па-за цэнтрам арганізацыі мелі патрэбную інфармацыю.

Асвоіўшся з жыцьцём у ЗША, Алесь ажаніўся са "сваёй жанчынай", спадарыняй Тэрэзай, дапамогшы ёй прыехаць зь Беласточчыны зь дзьвюма дачушкамі, якіх ён удочарыў, заснаваў салідную беларускую сям'ю, даглядаючы таксама свайго дзядзьку Міхася Міцкевіча ў ягоныя "сталыя" гады. Больш за тое, Алесь Міцкевіч шмат дапамог унуку Юзіку стацца прафэсійным журналістам. І як ён цешыўся, калі, купляючы папулярную газэту Daily News, чытаў ягоныя спартовыя рэпартажы.

У прачула напісаным інтэрнэтаўскім нэкралёгу пра свайго дзеда Алеся Міцкевіча ўнук Юзік напісаў: "Дзед прывучыў мяне да працы. Я наклейваў маркі на ўсе беларускія бюлетэні, якія дзед выдаваў рэгулярна, і я сядзеў з гонарам на возіку на бюлетэнях, калі дзед вазіў іх на пошту. Дзеда ўсе ведалі, ну, ясна, ведалі й мяне".

Апошнія каля дзесятка гадоў Алесь Міцкевіч хварэў. Я камунікаваўся зь ім па тэлефоне, і заўсёды гутарку Алесь пачынаў словамі: "У мяне зь пяток ракаў, іх зламілі. І хоць не магу працаваць, як раней, але ўсё беларускае мяне падтрымоўвае! Звані часьцей."

Нажаль, ракі перамаглі. Яны – прырода, інакш і ня можа быць.

Адыйшоў ад нас маламоўны, але вельмі дзейны патрыёт, выдатны сем'янін, шырокадыяпазонны беларускі актывіст, мой сябра – Алесь Міцкевіч.

Вечная яму памяць.

*Вітаўт Кіпель*



Выступае старшыня Бруклінскага аддзелу БАЗА Андрусь Асадчы



Танец ваяроў

# СЬВЯТА ГРУЗІНСКАЙ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ Ў НЬЮ-ЁРКУ

Пасьля агрэсіі Расеі супраць Украіны пачаў мяняцца міжнацыянальны клімат у Амэрыцы. Нацыянальныя дыяспары і эміграцыя з былога СССР сталі па-новаму заўважаць адна адну, шукаць кантактаў, прысутнічаць на ўрачыстых мерапрыемствах адна ў другой, запрашаць на юбілеі і г. д. Канкрэтна тут актыўныя: Украіна, Беларусь, Грузія, Малдова, Эстонія, Летува, Латвія і (Sic!) заўсёды прысутныя палякі. Польская дыяспара схіляецца да ўсіх нас (астатніх краін былога "соцлагеру" мы пакуль што ня бачым). Відаць палякі за мяжой інтуітыўна разумеюць небясьпеку для іх, якая ідзе з Расеі і адчуваюць ненадзейнасьць Захаду.



Ганна Сурмач – Старшыня Галоўнай управы БАЗА

26 траўня 97-я гадавіна Незалежнасьці Грузіі. Грузіны, як і беларусы, і іншыя нацыі, раней захопленыя Расейскай імпэрыяй, сьвяткуюць дзьве даты - 1918 г. і 1991 г., калі вызваліліся ад СССР і аднавілі Незалежнасьць. Мы, беларусы, сьвяткуем 25 Сакавіка - Дзень Волі і Незалежнасьці БНР, і 25 Жніўня -- Дзень Незалежнасьці і стварэньня незалежнай Рэспублікі Беларусь. І ўсё гэта (як і ў іншых краін) адзін працэс нацыянальнай Незалежнасьці.



Грузінская бабуля з будучай танцоркай

24 траўня грузіны Нью-Ёрка запрасілі беларусаў на імпрэзу, якая адбылася ў цэнтры Манхэттана ў Ніжнім горадзе. Ведаючы крыху ранейшыя цяжкія справы ў грузінаў Нью-Ёрку, я быў прыемна зьдзіўлены ўражлівымі пераменамі да лепшага. Ужо па імпрэзе было відаць, што перад намі моцная, вольная і культурная грузінская эўрапейская нацыя, патрыятычная і ўпэўненая ў сабе. Тут можна было адчуць тое, што некалі я заўважыў ў грузінскім тэатры. Грузінская патрыётка (сталая жанчына) так ўзьнёсла выступае на грузінскай мове, што пачынае трымцець душа, не разумеючы пры гэтым ніводнага слова.



Грузінскі танец

Але ўсіх узрушыў канцэрт проста на бруку. Выступалі грузінскія дзеці ад 6-ці да 14-ці гадоў. Яны танцавалі грузінскія танцы і сьпявалі грузінскія песьні ды так, што трымалі ўвагу гледачоў амаль дзьве гадзіны. Якія гэта цудоўныя дзеці вольнай Грузіі! Якія галасы, якія песьні!

Мне ўспомніліся пачатковыя 90-я гады, калі мы, фронтаўцы, хадзілі слухаць дзіцячы ансамбль "Госьціцу", дзе беларускія дзеці сьпявалі беларускія народныя песьні ў аўтэнтычнай манеры выкананьня. Іхныя грудныя сьпевы гучэлі, як трубы архангелаў і танцавалі яны, як анёлы. Як тыя нашы дзеці былі тады падобнымі на гэтых вольных, шчасьлівых грузінскіх дзяцей!

Потым вярнуліся саўковыя бруд, калгас, нямытая Расея - ўсё разбурана і абплёвана.

Што яшчэ заўважана, што пры невялікай грузінскай дыяспары сьпявае і танцуе такая вялікая колькасьць дзяцей (больш за 40). Прытым ў грузінаў няма нават свайго памяшканьня ў Нью-Ёрку для зборак і рэпетыцый. Дык яны кожны раз наймаюць памяшканьне і на табе - дзеці паказваюць такі клас. Віншуем з Днём Незалежнасьці, шчыра радуемся за Грузію і зычым ёй шчасьця.

***Зянон Пазьняк***
*26 траўня 2015 г.*



Грузінская дзяўчынка глядзіць канцэрт

# Запіскі расейскага "национал-предателя"

***Расейскі студэнт Іван Кульнеў, які вучыцца ў Бэрліне і навучыўся глядзець на сьвет і думаць, як нармальныя людзі, прыяжджае на канікулы ў свой Варонеж. І вось як ён тое апісвае (падаем ўрыўкі ў перакладзе з расейскай мовы):***

На стэндах вясковай бібліятэкі дзіцячыя малюнкі, на якіх паказана ў асноўным парадная вайна...

- Добры дзень! – мяне з падазрэньнем аглядаюць.

- Добры дзень.

Я кажу, хто я і адкуль, ня згадваючы, што зьяўляюся "нацыянал-здраднікам".

Жанчына зьлева жаўнерскім чаканным голасам сур'ёзна і ў той жа час з паўіроніяй:

- А ты не шпіён?

Мой фотаапарат, мабыць, навёў яе на гэтыя думкі. Падзеі разьвіваюцца хутка.

- Што там кажуць і пішуць пра Украіну? – усё з большым скэпсісам распытвае мяне ўсё тая ж жанчына.

Увесь яе выгляд гаворыць пра многае. Мне здаецца, што яе доўга і старанна выкоўвалі ў лабараторыі марксізма-ленінізма-сталінізма, потым перакоўвалі ў праваслаўе, урачыста пасьвячалі ў пуцінізм. У паслухмяны рэжыму зомбі. Такіх мільёны. Гэта якраз той сьвяты рускі НАРОД, якому заўсёды вельмі падабаецца, калі сатрапы, што стаяць над ім, б'юць яго пугай, выбіваюць зубы, лупяць скуру. Б'е – значыць любіць.

- Так, зараз мы цябе праверым, хто ты на самой справе. Скажы, ХТО гэта? (тыцкае пальцам, у танны агітпропаўскі таблоід "Аргументы и факты", што выпускаецца для інфузорый-туфелек). На карцінцы паказаны ў дзіўнай позе прэзыдэнт Парашэнка, балазе без рагоў і капытоў.

- Па-мойму, дастойны чалавек, – шчыра кажу я.

На імгненьне ў гэтым атручаным прапагандысцкім ядам памяшканьні ўзьнікла паўза. Грымасы жанчыны зьмяніліся. Памяць не дазваляе даслоўна аднавіць усё так, як было, што канкрэтна было сказана тады, бо градус нянавісьці быў вялікі. Столькі зьняваг разам на расейшчыне мне даўно не даводзілася пачуць. Яна пачала кідацца, як тыгр у клетцы. А потым, выходзячы з пакою, разараная нянавісьцю, упаўголаса прамовіла:

- ПРАДАЖНАЯ СССССУУУУКА!

Ейнае доўгае "с" я чую да гэтай пары. Мушу зазначыць, што гэта бібліятэкарка. Ня будзем забывацца, што бібліятэкары носьбіты культуры.

Жанчына за сталом справа, якая мела прыгожыя рускія рысы твару, апусьціла голаў. Я, агаломшаны падзеяй, пасьля кароткай паўзы паспрабаваў у разгубленасьці завязаць зь ёю размову.

- Чаму вы так нэрвова рэагуеце? Я маю іншую думку. Вы, ня выслухаўшы аніводнага майго аргумэнта, зьневажаеце мяне.

Наіўна, шчыра і без якой-кольвечы злосьці яна глядзіць мне ў твар:

- Як Вы можаце так казаць? На Украіне ж ва ўладзе фашысты!!!

У гэты момант я, урэшце, зразумеў, што гэта ВЕРА! Гэта імпэтная жалябаўская ВЕРА, якая гатова нават пры зьнешнім спакоі разбурыць і зьнішчыць. Вера ня мае патрэбы ў лагічным тлумачэньні, у аргумантах, у ведах. Чым прасьцей вера, чым больш прымітыўныя яе догмы, тым яна мацней і небясьпечней. Кожнаму рацыё наканавана разьбіцца аб яе.

Рацыянальнасьць – штука складаная, дзе трэба шмат думаць, рэфлексаваць, бясконца задаваць пытаньні, крытычна думаць, аналізаваць. А вера, ахутаная ў гераічныя міфы, якія надаюць ёй адмысловы слодыч, простая і зразумелая. Для сапраўдных вернікаў сьвет заўсёды чорна-белы: СЯБРА – ВОРАГ, СВОЙ – ЧУЖЫ, ЧОРНЫ – БЕЛЫ, НАШ – НЯНАШ. Абвінавачваць гэтых людзей? Абвінавачваць ахопленых глыбокай верай? У чым? Не спрачайся зь вернікамі! – пераконваў мяне знаёмы немец перад паездкай. Даражэй будзе.

Вельмі шанаваная і любімая мной прафэсарка ў Гумбальдтаўскім унівэрсітэце за некалькі дзён да паездкі ў Расею размаўляла са мной пра тое, як жахліва і трагічна тое, што адбываецца зараз у Расеі і на прыканцы нeяк сьціпла і разгублена зазначыла:

- Але, але, але чалавек павінен несьці нейкую адказнасьць!

На самой справе галава чалавеку дадзена ня толькі для нашэньня шапкі, а каб яшчэ й думаць ёю. Дык хто ж вінаваты ва ўсім гэтым? Ці толькі нягоднікі-прапагандысты з фэдэральных каналаў і прайдзісьветы са злодзеямі ва ўладзе – арганізатары злачынстваў? І хто ды ў якой ступені нясе адказнасьць? Бо чалавек – не жывёла, яму дадзены розум. Вечнае пытаньне і ня толькі расейскае.

Разумеючы, што далейшая размова ня мае сэнсу, я прашу дазволу сфатаграфаваць стэнды з кнігамі.

- Навошта вам? Ах, так, няхай! Усяроўна потым усё вычварыце. Фатаграфуйце! – махаючы рукой і ўздыхаючы кажа жанчына.

У гэты момант маладая дзяўчына, якая дагэтуль ціха сядзела каля каталога, раптам ускочыла і незаўважна мышкай праляцела да выйсьця. З калідора чуецца выразна па літарах сказаная фраза:

- Ён там фатаграфуе!

Ня выйшліся яшчэ Паўлікі Марозавы на сьвятой Русі! Маланкай у дзьвярах зьяўляецца тая поўная чуйнасьці дама, хутка крочыць у мой бок і, як у савецкіх фільмах пра шпіёнаў, пытаецца:

- Хто ты? Кажы! Адкуль ты?

Я ёй паказваю свой студэнцкі білет.

- Хто цябе паслаў туды? На якія грошы ты там? Я ж казала, казала, – крычыць яна грамчэй, амаль у істэрыцы. – У мяне нюх на іх, свалачэй. Я адчула адразу, што шпіён!

Разгарнуўся паўднёвы чэвэнгураўскі стэп ва ўсёй красе сваёй, зайграў, заскакаў:

- ЗА КОЛЬКІ ТЫ ПРАДАЎСЯ, ВЫРАДАК? КОЛЬКІ ЦЯБЕ ЗАПЛАЦІЛІ? НАШ УЛАДЗІМІР УЛАДЗІМІРАВІЧ! ТРЭБА ГАНАРЫЦЦА РАДЗІМАЙ, БЫЦЬ ПАТРЫЁТАМ!!! ДЫК МОЖА Ў ФЭ ЭС БЭ ПАТЭЛЕФАНАВАЦЬ?

Гэтая лексіка мне добра вядомая паводле газэт трыццатых гадоў, зь якімі давялося шмат працаваць. Усе гэтыя шпіёны, вырадкі, здраднікі не засталіся ў цвілай газэтнай паперы 1930-х гадоў і не пыляцца ў архіўных справах бязьвінна забітых, яны зноўку выскачылі адтуль і трывала пасяліліся ў душах і галовах мільёнаў.

Мне становіцца зразумелым, што трэба сыходзіць і як мага хутчэй. Калі гэтая таварыш-жанчына ў прыпадку шпіёнаманіі сапраўды паклікае прадстаўнікоў леваахоўных ворганаў і іншых сумежных зь імі структураў, то мяне спаляць на вогнішчы проста перад клюбам пад адабральныя воплескі разбэшчанага народа. Я выходжу зь дзьвярэй бібліятэкі. Яна крычыць мне наўздагон:

ПШОЛ ВОН!!! ПРЭЧ З НАШАГА ПАСЁЛКУ!!! ПРЭЧ!

Гняўлівае ПРЭЭЭЭЭЭЭЧ б'е па калідоры і працяглым рэхам разносіцца па сьценах старога ДК. Я вылятаю з клюба. Ля ўваход п'яны дэградант: Цыгарэта будзе?

Цяпер я прыгадваю гэта, як тэатр, але тады мяне ахапіла нейкае благое пачуцце. Гэта быў BRUCH (разрыў) з чарнасоценнай радзімай, што патанула ў імпэрскім брудзе, паварот канчатковы і поўны.

Можа і сапраўды "нацыянал-здраднік"? Бо Радзіма ж абула, апранула, накарміла і навучыла, дала самую лепшую ў сьвеце адукацыю, зь якой мне, праўда, даводзіцца перавучвацца. У галаве сумесь: крыўда зьмешваецца са злосьцю. Але не магу я любіць радзіму з заплюшчанымі вачыма!!!

Вось, станцыя "Трэсьвяцкая", пасёлак Воля. Канец лютага 2015 года. Цяпер гэта тое месца, адкуль я "ПРЭЧ!" можа і назаўжды...

Я мяняю квіткі ў касе, прашу прабачэньня ў бацькоў і зьязджаю. Мне брыдка ўсё гэта.

У Маскве, марнуючы час, з самай раніцы шпацырую па горадзе, іду ў бок Крамля. Падыходжу да Бібліятэкі імя Леніна – ГАЛОЎНАЙ БІБЛІЯТЭКІ КРАІНЫ!

Мне трэба любым коштам для пасьпяховага напісаньня дысэртацыі скапіраваць кнігу нацыянал-здрадніка і ворага народа І. Далуцкага. Яго ныя падручнікі па гісторыі сёньня лічацца "антырасейскімі" і "непатрыятычнымі". Яны, зразумела, не перавыдаюцца. Знайсьці іх цяжка ў Нямеччыне, замовіць праз сеціва не атрымліваецца. У варонежскай бібліятэцы была толькі першая частка.

Заходжу ў галоўную бібліятэку КРАІНЫ! І бачу скрыпучыя падлогі, паўразьбіты паркет, каталогі з гутэнбэргаўскага часу, якія у рабочым стане, а не музэйны экспанат. Выстава макулатуры ўсяляхіх Дугіных, Праханавых і цалкам прыязны і гатовы дапамагчы пэрсанал – рэшткі недабітых савецкіх акуляры-каў-інтэлігентаў, ворагаў нашай ВЯЛІКАЙ нацыі.

У адной з заляў выстава, зразумела, пра Вялікую Айчынную вайну. Як заўжды, з кулямётамі і танкамі, героямі і антыгероямі, з пафаснымі плакатамі. Тут я разумею, што ўсё яшчэ больш сур'ёзна, чым я думаў. У Варонежы можна было сьпісаць на правінцыйнасьць. Калі тут, у галоўнай бібліятэцы КРАІНЫ, у навуковай установе такое, то ў такім грамадзтве выразна нешта ня так...

Увечары саджуся на варшаўскі цягнік і еду прэч на Захад...

Пытаньні, якія шмат гадоў сябе задаю: як, калі і чым усё гэтае скончыцца? Задаю іх выкладчыку ва ўнівэрсітэце.

Ён глыбака ўздыхае і спакойна кажа:

- Ды як скончыцца? Як заўжды там. Вялікім гвалтам і крывёй.

***Іван Кульнеў***
*гісторык і славіст, Бэрлін*

# Кропка адліку

*Ліст з Аўстраліі:*

*Добры дзень, паважаная Рэдакцыя!*

*Дасылаю вам свой артыкул аб нядаўнім асаблівым эпізодзе з жыцьця беларусаў Аўстраліі (Сыднэя). Таксама дасылаю вам фотаздымкі, якія разьмясьціце, калі ласка, па вашых мажлівасьцях.*

*З павагаю*
***Яугенія Супрунюк.***

Сеньня 18 красавіка 2015 года. Гэты дзень для нас, аўстралійскіх беларусаў Сыднэя, надзвычай асаблівы: мы дамовіліся паехаць па сьлядах першых беларусаў, якія прыбылі ў Аўстралію пасьля Другой сусьветнай вайны. Што і гаварыць, часы былі нялегкія, патрэбна было сабраць усю волю ў кулак, каб адаптавацца ў новай краіне, якая, урэшце рэшт, стала другой Радзімай для кожнага, якую ўсе беларусы сёньня любяць і паважаюць.

Наша экскурсія, на гістарычнае месца ў г. Коўру (Cowra), штата Новы Паўднёвы Уэльс, пачалася у 6 гадзін 30 хвілін ранкам. Ніхто не спазьніўся, хаця людзі жывуць у розных куточках вялікага горада. Тут, як кажуць, былі і старыя, і малыя. Бачу здалёк, як прыбліжаецца ўжо немаладая жанчына, яе пад руку падтрымлівае высокі малады чалавек, каля іх у падскок бягуць дзеці - два белабрысых хлапчукі. Прыглядаюся: а, дык гэта ж спадарыня Вольга Дзядуля, з сынам Уладзімірам і унукамі - малымі хлапчукамі, Пятром і Цімафеем. І дачка Антаніна тут, разам з мужам - Джо Арланда.

За імі крочаць Лідзія Гусман(?) і Роза Раманчук, Паўліна Зялінская й Язэп Віцецкі.

Вось і яшчэ падышлі нашыя сябры: гэта Зінаіда Ладушка і сябра камітэту Беларускага клюбу Іларыён Акунеў.

Усе утульна ўладкоўваюцца ў вялікім камфартабельным аўтобусе. Дарога няблізкая - больш за 250 км толькі ў адзін бок.

Наперадзе ад мяне бачу жаночую прыгожа зачасаную сьветла-русую галаву. Хто ж гэта? - О, дык гэта ж мая зямлячка Ліза Бакуновіч. Яна глядзіць на мяне і прыемна ўсьміхаецца. У Лізы заўсёды ўсё ў парадку: прыгожа апранутая, статная, яна мае талент у любой сытуацыі быць спакойнай і разважлівай, даць добрую, шчырую параду, і на паседжаньнях камітэта Клюбу мы прыслухоўваемся да яе. Адразу ўспамінаецца яе жыцьцевая гісторыя. Ліза прыехала зусім яшчэ дзяўчынкай з Нямеччыны ў 1950 годзе са сваімі бацькамі, Пятром і Васілісай Бакуновічамі, і са старэйшымі братамі Валодзям, Аляксандрам і Мітрафанам.

Зьлева, недалёка ад мяне, сядзяць сёстры: Сафія і малодшая, Ванда. Тады яны былі дзецьмі, калі апынуліся менавіта ў Коўры, дзе жылі некалькі гадоў, хадзілі тут у школу.

Таксама зьлева, цераз праход, разьмясьцілася сямейная пара ўжо добра пажылых людзей. Гэта - Тынкевічы, Вячаслаў і Аляксандра. Яны украінцы, ужо доўгі час ёсьць сябрамі Беларускага клюбу. Коўра для іх таксама стала першым месцам пражываньня ў Аўстраліі.




Да экскурсійнай групы сёньня далучылася і Валянціна Плахоцкая. Яна расказала, што ў 1951 годзе прыехала 5-гадовай дзяўчынкай з татам Паўлам і мамай Ефрасіньняй Плахоцкімі, старэйшымі братамі Валодзям і Анатолям. Жыцьце было цяжкае. Малыя дзеці пражывалі з мамамі ў лягеры для бежанцаў, а бацькі і старэйшыя дарослыя працавалі далёка ў Сыднэі, там дзе былі патрэбныя рабочыя рукі, да сямей не было мажлівасьці часта прыязджаць. Цяжкае было становішча.

Да Валянціны прымасьцілася Жана Ананьева. Яна абедзьве працуюць у камітэце Клюбу. А яшчэ трэба бачыць, як яны смачна гатуюць нашыя беларускія стравы, калі мы праводзім сустрэчы і беларускія сьвятканьні!



*Ванда, Сафія, іх мама Вольга Тамашэўскія і Валянцін Стукач*

У аўтобусе ціха. Кожны думае пра сваё. Толькі неўгамонныя дзеці пра штосьці размаўляюць са сваім татам. Так непрыкметна мы прыехалі.

У Коўры, каля мемарыяла, нас сустракаюць прадстаўнікі гарадзкой улады. Усе падыходзяць да мемарыяльнай сьцяны, дзе вялікімі літарамі выгравіравана: EUROPA PARK. Афіцыйна ён быў адкрыты 23 сьнежня 2011 года, а канчаткова аформлены ў лістападзе 2014 года.

Прывітальнае слова ўзяў мэр Коўры Біл Уэст (Bill West).

Далей кожны з нашай групы атрымаў праспект з інфармацыяй і каляровымі фотаздымкамі таго гістарычнага часу, які сёньня з'яўляецца толькі апавяданьнем для унукаў і праўнукаў з вуснаў сьведкаў тых часоў. Многія са старэйшага пакаленьня ўспомнілі той вялікі лягер у Нямеччыне, дзе ім выпала доля пабываць у часы вайны.

Потым, пасьля вайны, у Аўстраліі была прынята дзяржаўная праграма, па якой стваралiся лягеры для бежанцаў. Але, каб прыехаць у Аўстралію, перад гэтым заключаліся дамовы, па якіх усе дарослыя (ад 18 гадоў і старэйшыя) мусілі, па прыездзе ў Аўстралію, адпрацаваць 2 гады на розных нялёгкіх фізычных працах, дзе патрабаваліся рабочыя рукі. Так у Коўры быў перапрафіляваны вайсковы лягер пад лягер для бежанцаў, праз які прайшло больш за 17 000 чалавек на працягу з 1949 года па 1955 год уключна.

Таксама на гэтай сустрэчы прысутнічалі прадстаўнікі гарадзкога савета: Council Laurence Ryan, The Rotary President Larry Walsh, Rotary member Dave McIntyre.

Ад нашай групы цёплае прывітаньне сказала старшыня нашага Беларускага клюбу Сыднэю Антаніна Дзядуля. Ад імя ўсіх беларусаў яна шчыра падзякавала мясцовай уладзе за тое, што яны ў гэтым помніку ўвекавечылі памяць беларусаў і іншых народаў сьвету, якія ў цяжкія пасьляваенныя гады апынуліся менавіта тут, у Коўры.

Потым яна і Біл Уэст афіцыйна агалошваюць і падымаюць беларускі сьцяг. Мы ўсе з гонарам глядзім, як на дрэўку, у вышыні, калыхнуўся ў паветры наш бел-чырвона-белы сымбаль Беларусі.

Я ўважна гляджу на твары беларусаў. Яны ва ўсіх задумлівыя. У кожнага свая гісторыя. Пра кожнага можна напісаць цэлую кнігу жыцьця. Многія робяць фотаздымкі, іншыя падышлі блізка да мемарыяльнай сьцяны і глядзяць на радамі выкладзены брук.

Там, на каменьні, выбіта "Беларусь" - дарагое нам слова, а таксама назвы усіх 27 краінаў сьвету, прадстаўнікі якіх апынуліся ў гэтым месцы; таксама прозьвішчы і імёны многіх людзей, якім давялося ў Коўры правесьці некалькі гадоў свайго жыцьця (а некаторыя сталі мясцовымі жыхарамі назаўсёды).

Я таксама раблю здымкі, многа здымкаў. Мне хочацца ўвекавечыць твары сёньняшніх беларусаў, заклапочаныя ўспамінамі пра тыя часы і пра тых людзей, якіх ужо няма болей на гэтым сьвеце.

Я гляджу на аслабелую спадарыню Рыгіну Зуй, якую прывезьлі сёньня сюды яе сын Аляксандр, яго жонка і дачка Ніна на сваім аўта, таму што ей цяжка падымацца ў аўтобус па прычыне хворых ног. Сп. Рыгіна ціхенька стаіць і, напэўна, таксама ўспамінае пра той час, пра бацькоў.

І я разумею, чаму кожнаму са старэйшых беларусаў так хацелася наведаць сёньня гэтае месца. Гэта таксама і ўспаміны пра сваю маладосьць. Гэта, свайго роду, кропка адліку новага жыцьця ў новай краіне, якая стала для усіх іх другой Радзімай.

Тут я таксама пачула некалькі вельмі цікавых рамантычных гісторый.

Напрыклад, спадарыня Вольга Дзядуля з усмешкаю расказала мне, што яна выпадкова сустрэла і пазнаёмілася ў Італіі са сваім будучым мужам, Леанідам Дзядулям, калі перапраўлялася з Нямеччыны ў Аўстралію. Ей давялося пакінуць Італію на нейкі час раней за яго, але Леанід сказаў, што калі дабярэцца да Аўстраліі, то абавязкова знойдзе яе. І знайшоў. Яны пражылі разам 62 гады. Выгадавалі дваіх дзяцей, унукаў і маюць праўнукаў. Шкада, што два гады таму адышоў у вечнасьць спадар Дзядуля, які апошнія гады быў старшынем Беларускага клюбу. А зараз яго ўзначальвае, выбраная сябрамі Клюбу, ягоная дачка Антаніна.

Тут жа, у 2-ух кроках ад мяне, я заўважыла, што наш нязьменны скарбнік Беларускага клюбу, Валянцін Стукач аб нечым узрушана размаўляе з Вандаю і Сафіяй Тамашэўскімі. Ванда таксама працуе ў камітэце Беларускага клюбу. Яна не адзін год была сакратаром. І тут я прыгадала, што, некалькі дзён перад гэтай экскурсіяй, яны мне паказалі адзін цікавы і вельмі памятны для іх чорна-белы фотаздымак, зроблены тут, у Коўры, многа гадоў назад. Яны, прыехаўшы ў Аўстралію, як і многія іншыя, апынуліся ў Коўры.

У сям'і Тамашэўскіх, Вольгі і Стэфана, акрамя Сафіі й Ванды, яшчэ ёсьць сын Яўген, які нарадзіўся ў Коўры. Прайшло шмат гадоў. У іх выраслі дзеці і унукі, але мне няцяжка было распазнаць гэтых людзей на старым чорна-белым здымку, які яны берагуць цэлае жыцьцё. Вось бачу маленькая прыгожая дзяўчынка, гадоў 6-7, у паліто і капялюшыку - гэта Ванда. Яе старэйшая сястрычка Сафія тут таксама стаіць і чароўна ўсьміхаецца. А чаму не ўсьміхацца, не радавацца жыцьцю, калі тут жа з імі знаходзіцца мама. А з мамаю ня боязна, не страшныя ні новая краіна, ні новыя людзі, ні новая мова. Так, Сафію нельга не распазнаць, яна і сёньня нязменна трымае на вуснах тую ж цеплую ўсмешку.

Я далей уважліва гляджу на фотаздымак і бачу прыгожы твар юнака. О, дык гэта ж наш Валянцін. Ён і сёньня не вельмі зьмяніўся, калі па-

Заканчэньне на 9-й бачыне

# НЕКАЛЬКІ ЗАЎВАГ ПА ГІСТОРЫІ ІГНАРАВАНЬНЯ РЭЖЫМНЫХ ВЫБАРАЎ

Байкот фальшывых выбараў – гэта зьява, якая фармальна адносіцца да выбарчага працэсу, але па сутнасьці – гэта першапачатковая зброя барацьбы з антыбеларускім акупацыйным рэжымам. Прапановы байкоту рэжымных выбараў былі з майго боку яшчэ ў 1998 годзе. Тым часам наша фронтаўская (КХП – БНФ) палітыка байкоту сфармавалася пасьля 2001 года. Да гэтага ў 2000 годзе ў Менску мы правялі байкот выбараў у «палатку». Амаль на палове выбарчых участкаў у горадзе байкот меў посьпех і выклікаў паніку ў верхавіне рэжыму.

Тады была вельмі сурэзная барацьба. Масква і немцы (Ганс Вік і кампанія) хацелі легітымізаваць лукашысцкую «палатку» і гналі сваю яшчэ слаба сфармаваную квазі-апазіцыю на выбары (дарэчы, частка яе супраціўлялася гэтаму загону і падтрымлівала байкот). Кіраўнік рабочай групы АБСЭ ў Беларусі Адрыян Севярын спэцыяльна езьдзіў у Маскву і сустракаўся са старшынёй Дзяржаўнай Думы Расеі камуністам Геназдем Селязьнёвым, вёў размовы пра сумесныя дзеяньні Расеі і АБСЭ ў Беларусі па ўцягненьні беларускіх палітычных партыяў у выбары, якія рыхтаваў антыбеларускі рэжым.

Сойм КХП – БНФ і БНФ «Адраджэньне» 10-га чэрвеня 2000 года прыняў адмысловую заяву «Пра няўдзел у выбарах», дзе дадзена ацэнка падзей. Мы патрабавалі, каб АБСЭ не прысылала сваіх назіральнікаў на выбары і праігнаравала імітацыю выбараў у прафанацыю «парляманта» (разумеючы таксама, што АБСЭ тут магла падыграць рэжыму). Тым ня менш перад самымі выбарамі немцы пад кіраўніцтвам левага «друга» Беларусі дэпутата Бундэстагу фраў Шротэр вырашылі зрабіць нечаканы дэсант у Менск ў якасьці назіральнікаў і ў апошні момант прыслалі факс, каб іх сустрэлі, у канцылярыю Вярхоўнага Савета," старшыні Вярхоўнага Савета Шушкевічу" (так яны напісалі), хоць ён старшынёй ня быў. Сапраўдны старшыня падпольнага Вярхоўнага Савета Сымон Шарэцкі, зьбянтэжаны гэтым абуральным няведаньнем, хто ёсьць хто, пераслаў той факс мне. Нямецкай групе АБСЭ на імя фраў Шроттэр пайшоў факс ад майго імя, каб яны ня ехалі, бо ў час байкоту іх ніхто не чакае. (Дарэчы, немцы, быццам бы ўсё ж прыяжджалі, але іх сапраўды ніхто не чакаў). А ўрэшце тыя недэмакратычныя, правальныя і месцамі байкатаваныя выбары ў «палатку» не прызнала і АБСЭ (вымушана была не па-рызнаць).

Тым ня менш мы выпрабоўвалі тады таксама іншыя падыходы, разумеючы стан грамадства. Мая заяўка на ўдзел у прэзыдэнцкіх выбарах 2001 года была прадыктавана спробай легальна (без арышту і пасадкі) прыехаць у Беларусь, легальна ўключыцца ў выбарчы працэс і перакуліць рэжымныя пляны з нібыта «апазыцыйным» кандыдатам былым членам Бюро ЦК КПБ У. Ганчарыкам і іншымі падстаўнымі. Мне неабходная была статусная прысутнасьць. У такім разе (я так думаў) шмат што магло атрымацца. У такой прысутнасьці вырваць у рэжыма не ўдалося.

У 2006 годзе на прэзыдэнцкія выбары мы прапанавалі мэтад «народнага галасаваньня». «Народнае галасаваньне» зыходзіла з пазыцыі байкоту фальшывых выбараў. Гэта быў камбінацыйны плян нібыта паралельных выбараў, нібыта фармальнага ўдзелу, але фактычнага няўдзелу выбаршчыкаў у фальшывым галасаваньні, калі выбаршчык забіраў з сабой (адымаў) афіцыйны выбарчы бюлетэнь (як доказ голасу), а ў скрыню апускаў «народны бюлетэнь». Машына фальсіфікацыі ў такім разе не магла фальсіфікаваць, яна глухла, а доказы галасоў заставаліся ў народа. І ўсё законна. Мы прыдумалі мэтад кантролю над самой фальсіфікацыйнай машынай.

Для руху гэтай ідэі павінна зноў жа быць мая статусная прысутнасьць на выбарах. Натуральна, што рэжым імкнуўся не дапусьціць такога павароту падзеяў. Супраць «народнага галасаваньня» выступіла таксама падстаўная апазыц-камарылья (Мілінкевіч і інш.). Чым усё скончылася – вядома (сілавым умяшаньнем рэжыму, фабрыкацыямі, рэпрэсіўнымі паводзінамі ЦВК і «попагапонствам» падстаўных дзеячоў).

2006 год яскрава паказаў, што ў выбарах пры антынацыянальным акупацыйным рэжыме павінен быць толькі жорсткі наўпроставы байкот (дэманстратыўны няўдзел у галасаваньні). Усялякія кантактныя манэўры байкоту з выбарчай сістэмай таксама немагчымыя (спыняюцца банальнымі рэпрэсіямі, адміністрацыйным супрацьдзеяньнем і сілай).

На гэтай пазыцыі (выпрабаванай на практыцы) мы стаім ўвесь час. Але, паўтаруся, сэнс байкоту як грамадзкай барацьбы праявіцца толькі тады, калі створыцца паралельнае існаваньне грамадства, адрыў яго ад рэжымнай улады і кансалідацыя ў змаганьні з рэжымам на каштоўнасьцях нацыі, свабоды і дэмакратыі.

Такое ня робіцца за адзін раз. Патрабуецца доўгая змагарная і асьветніцкая праца ўвесь час (а ня толькі калі выбары). Пазбавіцца ад паразітнага рэжыму антынацыянальнай улады немагчыма без апоры на сілу народнага асяроддзя і грамадзкіх настрояў. Трэба ўвесь час спрыяць стварэньню такога пратэстнага асяроддзя пагрунтаванага на нацыянальным адзінстве і справядлівых ідэях. Трэба ўвесь час спрыяць высьпяваньню палітычных абставінаў для барацьбы з рэжымам. Тады надыйдзе час пераменаў, які (што важна) нельга страціць, як здарылася гэта, напрыклад, восеньню 1996 года (калі ў адпаведным месцы, у адпаведны час апынуліся неадпаведныя людзі). Але гэта ўжо крыху іншае пытаньне і іншая вобласьць палітыкі.

***Зянон Пазьняк***

*6 красавіка 2015 г.*

● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ●

***Заканчэньне з 8-й бачыны***

раўнаць са старым здымкам: той жа хударлявы твар, стройны. Ён заўседы рухлівы, працавіты і скрупулезна адказны чалавек, які многа гадоў працуе ў камітэце нашай невялікай беларускай грамады. Вось яны і стаяць і ўспамінаюць свае маладыя гады.

Я прашу ў іх дазволу і раблю новы фотаздымак гэтых траіх, хто жыў некалі тут, у Коўры.

Пасля абеду, на які мы запрасілі мясцовых прадстаўнікоў улады, яны паказалі нам яшчэ адно цікавае гістарычнае месца ў Коўры: гэта вялікі ЗВОН МІРУ НА УСІМ СЬВЕЦЕ (The World Peace Bell), які быў усталяваны ў горадзе 15 верасьня 1992 года. Вельмі сымбалічнае месца .

Дзеці, Пятрусь і Цімох, так і стараліся, каб як мага гучней, грымнуць у калакал.

Маладзейшыя беларусы рабілі памятныя фотаздымкі, а старэйшыя ціха пакрочылі да аўтобуса.

Усе крыху стаміліся.

У аўтобус падымаецца прывабная сямейная пара: Косьця і Ірына Нафрановічы. Усьміхаюцца адзін да другога. Шчаслівыя. Яны таксама прыехалі ў Аўстралію з бацькамі, калі былі зусім маленькімі дзеткамі. Вырaслі. Тут і пазнаёміліся, пажаніліся. Пабудавалі добрую сям'ю.

Дарога дадому заўседы здаецца карацейшай.

Нікому не хочацца думаць пра сумнае.

Мы вырушаем.

Валянціна Спесыва пачынае жартаваць са сваею сяброўкай Нінай Дусь, якая сядзіць поруч з ёю, наперадзе. Яны абедзьве ў дзяцінстве, калі прыехалі з Нямеччыны з бацькамі, таксама жылі ў Коўры. Ад Валянціны адразу усім перадаецца яе заўседы пазытыўны настрой.

Я ўспамінаю пра тое, якія цудоўныя яна пячэ пірагі, якая яна дружалюбная, гасьцінная гаспадыня. Некалькі разоў і я бывала ў гасьцях у сям'і Спесывых. Шкада, што так раптоўна захварэў і пакінуў яе ўдавою яе працавіты, майстар на ўсе рукі, муж Барыс. Сваю шчаслівую сям'ю яны будавалі таксама, сустрэўшыся з Барысам у Аўстраліі, ужо будучы даросьлымі.

Кабеты жартуюць. Усе усьміхаюцца.

Далей, я з прыемнасьцю гляджу на прыгожую пару, Валянціна і Зінаіду Стукач. Яны заўседы разам. Я заўседы любуюся імі і радуюся за іх, шчаслівых. А што такое шчасьце? Гэта нейкая такая субстанцыя, якую не кранеш рукамі: яно ёсьць або няма...

І вось яны, Зінаіда і Валянцін, могуць служыць прыкладам добрай сям'і, шчасьця, каханьня.

Мой позірк пераходзіць на дзяцей. Вось яны, нястомныя. Ім ўсе цікава, усё ўпершыню. Хочацца дакрануцца да іх ільняных валасоў, заглянуць у іх васільковатга колеру вочы. Яны - наша будучыня.

Жыцьце і маладосьць правяць баль.

У кожнага чалавека ёсьць свая кропка адліку, - думаю я.

**Жыве Беларусь!**

## Парафіяльныя сьвяты ў беларускіх цэрквах



*Багаслужба ў Нью Брансуіку*

**У нядзелю, 10 траўня, у Беларускім праваслаўным саборы БАПЦ у Брукліне адзначалі Дзень Святога Кірылы Тураўскага, чыё імя носіць сабор, і штогод гэты дзень адзначаецца як парафіяльнае сьвята. Адбылася архіярэйская служба, якую адслужыў кіраўнік БАПЦ Уладыка Сьвятаслаў з удзелам дзейных сьвятароў сабору а. Івана і а. Міколы. Сьвяточная Багаслужба закончылася выкананьнем гімна "Магутны Божа". Пасьля гэтага сьвяткаваньне працягнулася ў грамадзкай залі, дзе прысутныя частаваліся беларускімі стравамі, і адбыліся сяброўскія гутаркі.**

**Праз тыдзень, 17 траўня, сваё парафіяльнае сьвята адзначала ў Нью Брансуіку Царква Іконы Божай Маці Жыровіцкай. Урачыстую службу правёў таксама Уладыка Сьвятаслаў з удзелам настаяцеля царквы а. Зіновія і запрошанага сьвятарства з іншых парафіяў. Адбыўся хросны ход вакол царквы з Іконаю Божай Маці Жыровіцкай.**

# Сьветлай памяці айца Аляксандра Надсана



**(8 жніўня 1926 – 15 красавіка 2015)**

***15 красавіка ў Лёндане на 89-годзе жыцьця памёр айцец Аляксандар Надсан, адзін з самых выбітных дзеячаў беларускай эміграцыі паваеннай хвалі, уніяцкі сьвятар, дасьледчык-беларусіст, выбітны руплівец беларушчыны.***

Разьвітацца са сьвятаром у царкву Сьвятой Марыі ў Лёндане прыйшлі больш за 100 чалавек — актывісты беларускай дыяспары, сябры і паплечнікі Аляксандра Надсана. Адпяваньне працягвалася каля дзьвюх гадзінаў, яго праводзілі дзесяць сьвятароў на чале з біскупам украінскай царквы.

Падчас службы гаварылася, што айцец Надсан — сьветлы чалавек вялікай душы, і памяць пра яго будзе назаўсёды ў тых, хто яго ведаў, і тых, каму ён дапамагаў. Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла сказала, што яна зь вялікім жалем разьвітваецца з айцом Аляксандрам, але таксама і з радасьцю за тое, што Беларусь мае такіх людзей, якія сваім прыкладам даюць пэўную надзею на тое, што Беларусь будзе вольнай.

Браян Бэнэт, былы амбасадар Вялікабрытаніі ў Беларусі, а цяпер кіраўнік Англа-беларускага таварыства, падчас разьвітаньня казаў пра надзвычай важную ролю ў жыцьці беларускай дыяспары, якую адыгрываў айцец Аляксандар Надсан.

Цырымонія разьвітаньня пачалася, 28 красавіка. Труну зь целам спачылага айца Аляксандра Надсана выставілі для разьвітаньня ў Марыян Хаўз у Лёндане, ў царкве, дзе дзесяцігодзьдзі служыў Аляксандар Надсан, дзе ён кожную раніцу маліўся за Беларусь. Удзел у разьвітальнай цырымоніі бралі старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла і Апостальскі візытатар для грэка-каталікаў Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек.

Апостальскі візытатар для беларусаў-католікаў у замежжы а. Аляксандар Надсан знайшоў свой апошні спачын на найвялікшых у Вялікабрытаніі, што да колькасьці пахаваньняў, могілках Сьвятога Панкрата ў Лёндане. Там пахаваныя беларускі грэка-каталіцкі біскуп Чэслаў Сіповіч, архімандрыт Леў Гарошка, айцец Язэп Германовіч, айцец Тамаш Падзява, айцец Фелікс Журня, айцец Кастусь Маскалік, а таксама й іншыя беларускія дзеячы.



Айцец Аляксандар Надсан быў унікальнай постацьцю ў беларускім сьвеце. А ў комплексе беларускіх установаў у паўночным Лёндане — у «беларускай вёсцы» — ён быў практычна ўсім. Што застаецца па ім пасьля таго, як ён пайшоў з жыцьця сёлета 15 красавіка?

Аляксандар Надсан доўгія дзесяцігодзьдзі быў грэка-каталіцкім сьвятаром, апостальскім візытатарам для беларусаў-каталікоў у замежжы, кіраўніком Бібліятэкі і музэю імя Францішка Скарыны, старшынём дабганізацыя місіі, перад намі паўсталі велізарныя праблемы. Я бачыў, што мадэль, паводле якой нашы непасрэдныя рэлігійныя начальнікі былі ў Рыме, а жыць і дзеяць трэба тут, не працавала. Я пачаў спрабаваць вырашыць гэтую сытуацыю з дапамогай зацікаўленых кампэтэнтных асобаў у каталіцкай царкве Брытаніі з мэтай увайсьці ў падпарадкаваньне нейкай мясцовай каканічнай структуры, каб магчы вырашаць усе нашы праблемы на месцы. І вось пасьля нашых кансульта-

*Аднак цяперашняя мадэль нас задавальняе, яна дае нам надзею на тое, што мы зможам разьвівацца. Цяпер, у адсутнасьці Айца, наш начальнік – уладыка Глеб, і ён цяпер мусіць дбаць, каб місія заўсёды мела беларускага сьвятара. Гэта – ягоны абавязак, дадзены яму Сьвятым Айцом Францішкам, Папам рымскім.*

**СШ:** Значыць, у яго няма інтэнцыі пашырыць тут украінскія ўплывы?

**СС:** *Украінцы – нашыя браты. У тым ліку паводле*

***Шмат каго ў Беларусі і сярод беларускай дыяспары ў сьвеце цікавіць пытаньне, хто заменіць А. Аляксандра, хто працягне ягоную справу, які лёс чакае беларускі асяродак у Лёндане?***

***Падаем далей інфармацыю, падрыхтаваную Сяргеем Шупам, якая, на наш погляд, вельмі грунтоўна і найбольш поўна адказвае на гэтыя пытаньні. Інфармацыя ў скароце ўзятая з сайта Радыё Свабода за 6 траўня 2015.***

# Пасьля Надсана

рачыннага Чарнобыльскага фонду.

Айцец Аляксандар займаў такое важнае месца ў розных палях беларускай дзейнасьці, што пасьля яго адыходу адчуваецца вялікая пустка. Няма сэнсу задавацца пытаньнем — хто заменіць яго там, дзе яго больш няма, бо гэты чалавек у сваёй унікальнасьці і ў сукупнасьці сваіх функцыяў сапраўды незаменны. На працягу апошніх дзесяцігодзьдзяў ён рыхтаваў сабе наступнікаў і ўзгадаваў нямала тэолягаў, біблеістаў, бібліятэкараў, архівістаў — іх хапіла б на невялікую, але сур'ёзную навуковую ўстанову. Аднак аднаго чалавека, які спалучыў бы ў сабе ўсе грані айца Аляксандра, знайсьці, бадай што немагчыма.

Што ж сёньня чакае ўсё тое, чым доўгія гады кіраваў айцец Аляксандар? Найперш — Беларускую каталіцкую місію і Бібліятэку імя Францішка Скарыны? Мы пагаварылі з вучнямі і наступнікамі Айца.

Айцец Сяргей Стасевіч — магістар кананічнага права, высьвячаны на грэка-каталіцкага сьвятара ў Лёндане ў 2006 годзе — пераняў па айцу Аляксандру сьвятарства ў Беларускай каталіцкай місіі.

**а. Сяргей Стасевіч (СС):** *Наша беларуская супольнасьць была ў складанай сытуацыі, асабліва з пункту гледжаньня царкоўнага права. Хоць айцец Аляксандар каардынаваў дзейнасьць беларускай грэка-каталіцкай царквы ў дыяспары, але належнай кананічнай улады тут на месцы ў яго не было. У сувязі з гэтым, яшчэ задоўга да таго, як пачался рэарцыяў з Апостальскім Нунцыям у Вялікабрытаніі 18 сьнежня 2014 году Сьвяты Айцец Францішак аддаў нас у царкоўнае падпарадкаваньне біскупу Глебу Ланчыну, япарху нядаўна заснаванай грэка-каталіцкай япархіі Сьвятой Сям'і ў Лёндане з захаваньнем нашай ідэнтычнасьці, царкоўных традыцый і ўсіх нашых матэрыяльных дабротаў дзеля дабра беларусаў, якія жывуць тут.*

**Сяргей Шупа (СШ):** А якая сытуацыя існавала да гэтага?

**СС:** *Ад 1947 году Беларуская каталіцкая місія існавала ў непасрэдным падпарадкаваньні Кангрэгацыі для Ўсходніх Цэркваў у Рыме. Некалі тут быў біскуп Сіповіч, які сам быў ярархам. Айцец Аляксандар такой улады ня меў, але яго наяўная мадэль існаваньня задавальняла. Аднак цяпер, калі мы пачалі вырашаць практычныя пытаньні – нам трэба спачатку было прадаць зямлю, а пасьля атрымаць з яе грошы на іншыя праекты – гэта было ўжо зрабіць вельмі складана, бо нашы начальнікі былі ў Рыме, і трэба было бясконца прасіць апрабаты па кожным пытаньні. Адказы часам не прыходзілі або прыходзілі з спазьненьнем. Не было сэнсу ў тым, каб маленькая місія ў Лёндане ў практычнай дзейнасьці непасрэдна залежала ад Усходняй Кангрэгацыі ў Рыме, якая звычайна мае справу з праблемамі вышэйшага парадку. Усё так здарылася таму, што ў беларусаў дагэтуль няма сваёй ярархіі. Пасьля біскупа Тарасевіча – апошняга каталіцкага біскупа ўсходняга абраду, які памёр у 1986 годзе – у нас дагэтуль няма сваіх біскупаў.*

*веры. І я шмат разоў меў магчымасьць пераканацца ў гэтай простай праўдзе, жывучы тут. Воля Рыму ў тым, каб гэтае месца заставалася беларускім, і я пераканаваны, што ўкраінскі Ўладыка будзе пра гэта дбаць.*

**СШ:** Ці вакол місіі складаецца парафія?

**СС:** *Парафія – гэта царкоўная супольнасьць, часьцінка народу Божага, уваходзіць у япархію, якую узначальвае біскуп. Місія – таксама царкоўная адзінка, толькі ствараецца на тэрыторыі іншай япархіі, напрыклад лацінскага абраду, дзеля абслугоўваньня сваіх – беларускіх ці украінскіх вернікаў, мае часовы характар. Такой была пасьляваенная практыка ў Эўропе падчас перасяленьня гэтак званых паняволеных народаў. Усе супольнасьці эмігрантаў у Вялікай Брытаніі як лацінскага так і ўсходняга абраду зь місіяў ужо перарасьлі ў парафіі. Цяпер надышла наша чарга. Мы ўрэшце зьбіраемся будаваць сапраўдны храм – царкву Сьвятога Кірылы Тураўскага і ўсіх сьвятых заступнікаў беларускага народу...*

*Наш новы біскуп Глеб бласлявіў нас на тое, каб распачаць будаўніцтва, і справа ужо падыходзіць да стадыі выкананьня задумы. Наш архітэктар знайшоў таленавітага ангельца-цесьляра, нашчадка школы Артс энд Крафтс, які будзе выключна будынкі з дрэва. Хутка будзе падпісаны зь ім кантракт, і можна пачынаць будаўніцтва.*

**Што сёньня чакае бібліятэку? Якія праблемы перад ёй стаяць? Якія варыянты далейшага разь-**

Заканчэньне на 11-й бачыне

***Заканчэньне з 10-й бачыны***

***віцця сытуацыі? Расказвае Ігар Іваноў, сакратар Апякунскай рады Беларускай бібліятэкі і музэю імя Францішка Скарыны:***

**Ігар Іваноў (ІІ):** *Айцец пакінуў бібліятэку як грандыёзны праект зь вельмі выразнай візіяй — несьці асьвету пра Беларусь у Заходні сьвет. Гэтая візія і да сёньня застаецца рэлевантная. Яна палягае ў тым, каб зьбіраць беларусістыку і стварыць цэнтар, дзе людзі, якія цікавяцца Беларусьсю, маглі б пашыраць свае веды і інтарэсы. За 40 гадоў існаваньня бібліятэкі ў ёй пабывала тысяча дасьледнікаў, былі напісаныя дзясяткі кніг і артыкулаў пра Беларусь на самых розных мовах.*

*Цяпер сытуацыя крышачку мяняецца, бо мяняецца сьвет. Бібліятэка робіцца менш даступнай для дасьледчыкаў зь Беларусі, а Беларусь робіцца больш даступнай для дасьледчыкаў з замежжа. Таму бібліятэка будзе пераасэнсоўваць сваё месца. Думаю, што яна будзе больш разварочвацца ў бок беларускай грамады ў самой Брытаніі, бо тут зьяўляецца ўсё больш беларусаў, тут ёсьць маладое пакаленьне, якое прыехала сюды зь іншых прычынаў, чым паваенная хваля беларускіх эміграцтаў. Таму цяпер у бібліятэкі зьяўляецца новая задача — падтрымліваць культурныя патрэбы маладой беларускай эміграцыі.*

*Разам з тым роля бібліятэкі ў справе пашырэньня інфармацыі пра Беларусь у Брытаніі робіцца ўсё больш актуальнай, бо беларускі голас у Брытаніі не такі гучны. Бібліятэка можа быць грамадзкім цэнтрам, дзе людзі могуць зьбірацца, гэта месца, дзе гутарка можа весьціся і па-беларуску, і па-ангельску. Гэтае месца непрыватызаванае і непадцэнзурнае і павінна такім заставацца. Бо бібліятэка настолькі каштоўная, наколькі яна непадцэнзурная. Тым яна і ўнікальная сярод іншых арганізацыяў, яна павінна заставацца па-за ідэалёгіямі.*

**СШ:** Значыць, выключаюцца ўсе варыянты залежнасьці бібліятэкі ад нейкай дзяржавы, напрыклад, Рэспублікі Беларусь?

**ІІ:** *Залежнасьць выключаецца. Было б, вядома, добра супрацоўнічаць — бібліятэка заўсёды добра супрацоўнічала з рознымі арганізацыямі ў Беларусі, у тым ліку савецкай Беларусі. Добра вядомы факт, што значная частка фондаў бібліятэкі была атрыманая праз Бібліятэку Акадэміі навук Беларусі, зь якой у свой час існавала праграма абмену фондамі. Гэты абмен спыніўся, бо цяпер няма матэрыяльнага сэнсу гэта рабіць. Але заўсёды існавалі кантакты — са Скарынаўскім цэнтрам часоў Адама Мальдзіса, зь іншымі арганізацыямі і ўстановамі, гэта заўсёды было, хоць часам і мянялася, і гэтак яно будзе і ў будучыні. Але залежнасьці не будзе, бібліятэка павінна заставацца голасам, які гаворыць да Беларусі — якой бы яна там ні была, да беларусаў у Брытаніі, да брытанскага грамадзтва.*

**СШ:** Ці не магла б бібліятэка выконваць функцыю, падобную да той, якую маюць культурныя прадстаўніцтвы розных краінаў за мяжою — Інстытут Гётэ, Інстытут Сэрвантэса, British Council?



*а. Сяргей Стасевіч. Фота: Мікалай Пачкаеў*

**ІІ:** *Сама па сабе бібліятэка такую функцыю выконваць ня можа. Скарынаўская бібліятэка заўсёды была тут часткай большага беларускага праекту, і такой часткай яна застанецца. Было б, вядома, пажадана, каб у выніку ўсё гэта развілася ў нейкі грамадзка-культурны цэнтар.*

**СШ:** Тут маглі б праводзіцца канфэрэнцыі, выставы, курсы беларускай мовы...

**ІІ:** *Ёсьць самая новая ініцыятыва і, з майго гледзішча, вельмі цікавая — бібліятэчны абанэмэнт, якога тут ніколі не было. Сюды прыходзіць маладое пакаленьне — па нядзелях сюды прыходзяць на службу, разам з бацькамі прыходзяць дзеці — яны хочуць пазычаць кніжкі!*

**СШ:** Хто б мог быць наступнікам айца Аляксандра як бібліятэкара?

**ІІ:** *Айцец быў унікальны як асоба, і ягоная роля таксама была ўнікальная. Ягоная пасада ў бібліятэцы называлася «бібліятэкар». Але насамрэч ён — і заснавальнік, і філёзаф гэтай бібліятэкі, і яе натхняльнік. І я думаю, што замяніць яго «адзін да аднаго» немагчыма, дый ня трэба. У красавіку сёлета бібліятэка зноў была зарэгістраваная як дабрачынная арганізацыя (charity) паводле брытанскіх законаў. Гэта для нас вельмі значная падзея, бо гэта азначае, што ў вачах брытанскай дзяржавы бібліятэка выконвае вельмі важную культурную і грамадзкую ролю, робіць вельмі важны ўнёсак у жыцьцё гэтай краіны, яе сацыяльных і этнічных грамадаў. Гэта прызнаньне таго, што бібліятэка мае неабходны патэнцыял і энэргію. Гэта азначае таксама, што праца, якую Айцец пачынаў, будзе працягвацца — толькі іншымі людзьмі і ў іншых формах.*

**СШ:** За кошт чаго існуе і будзе існаваць бібліятэка?

**ІІ:** *Айцец у свой час здолеў сабраць даволі значныя фонды, каб забясьпечыць будучыню бібліятэкі. Дзякуючы гэтаму бібліятэка мае стабільнае становішча ў блізкай і сярэдняй пэрспэктыве. Фінансавая сытуацыя бібліятэкі будзе вельмі моцна залежаць ад таго, наколькі актыўна мы будзем шукаць і знаходзіць сродкі. Ёсьць прыклады таго, як гэта робяць іншыя бібліятэкі — напрыклад, польская бібліятэка ў Лёндане цалкам фінансуецца за кошт тэстамэнтаў сваіх суайчыньнікаў, а гэта велізарная бібліятэка. Магчыма, яны атрымліваюць пэўную тэхнічную дапамогу ад Польскай дзяржавы, але фінансава яны ад яе незалежныя. Як беларуская грамада ў Вялікабрытаніі мы павінны працаваць над тым, каб пераканаць нас саміх у важнасьці бібліятэкі ў нашым жыцьці, у жыцьці Беларусі. Таму ахвяроўваць грошы бібліятэцы, пакідаць ёй грошы тэстамэнтам, працаваць як валанцёр — высакародная справа. І мы ўжо маем прыклады таго, што беларусы з па-за Брытаніі падтрымліваюць бібліятэку — ужо цяпер рэалізуюцца праекты, дапамога на якія прыйшла з па-за Брытаніі, і не ад Беларускай дзяржавы..."*

# Каляндар

## памятных датаў на чэрвень 2015




**1 чэрвеня - Міжнародны дзень абароны дзяцей**

**5 чэрвеня - Міжнародны дзень аховы навакольнага асяроддзя**

**7 чэрвеня - 135** гадоў таму, у 1880 годзе, нарадзіўся **Вацлаў Іваноўскі,** грамадзка-палітычны дзеяч, асьветнік, выдавец, бурмістр Менску ў 1941-43 г.г.

**8 чэрвеня - 120** гадоў таму, у 1895 годзе, нарадзіўся **Ігнат Дварчанін,** грамадзка-культурны дзеяч , літаратуразнавец, педагог

**9 чэрвеня - 45** гадоў таму, у 1970 годзе, у Нью-Ёрку забіты **Уладзімір Тамашчык,** праваслаўны сьвятар, архіепіскап БАПЦ

**10 чэрвеня - 105** гадоў таму, у 1910 годзе, памёр **Мікалай Нікіфароўскі,** этнограф, фальклярыст

**12 чэрвеня - 120** гадоў таму, у 1895 годзе, нарадзіўся **Леапольд Родзевіч,** палітычны і грамадзкі дзеяч, драматург, паэт

**14 чэрвеня - 115** гадоў таму, у 1900 годзе, нарадзіўся **Міхась Забэйда-Суміцкі,** сьпявак, педагог, дзеяч эміграцыі ў Чэхіі

**15 чэрвеня - 110** гадоў таму, у 1905 годзе, нарадзіўся **Юрка Віцьбіч,** пісьменьнік, грамадзка-культурны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў ЗША

**16 чэрвеня - 60** гадоў таму, у 1955 годзе, у Нью-Ёрку памёр Васіль Рагуля, грамадзка-культурны дзеяч, пасол польскага сэйму, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне, Бэльгіі і ЗША

**21 чэрвеня - 95** гадоў таму, у 1920 годзе, нарадзіўся **Усевалад Родзька,** палітычны і вайсковы дзеяч

**24 чэрвеня - 125** гадоў таму, у 1890 годзе, нарадзіўся **Чэслаў Родзевіч,** грамадзка-культурны дзеяч

**24 чэрвеня - 115** гадоў таму, у 1900 годзе, нарадзіўся **Кузьма Чорны,** пісьменьнік

**26 чэрвеня - 115** гадоў таму, у 1900 годзе, нарадзіўся **Мікола Целеш,** пісьменьнік, дзеяч эміграцыі ў ЗША

**УВАГА!**
**Наш паштовы адрас:**
**P.O. Box 456**
**New York, NY 10025**
**USA**

# ІРЭНА ЦУПРЫК-ЖЫЛІНСКАЯ



**(сьнежань 1919 - 11 красавіка 2015)**

З нашай грамады адыйшла на той сьвет Ірэна Цупрык (Жылінская), пакінуўшы па сабе сына Робэрта, дачку Лану Трэмблі, унукаў Лёрэн і Патрыка Трэмблі ды праўнучку Марыю Трэмблі. Засталіся жыць таксама сваякі ў Расеі: сястра Лора, пляменьнік Уладыслаў Гелецкі й двое ўнучатых пляменьнікаў у Краснаярску. Яшчэ пры жыцьці яе памерлі ейны муж Ян, нявестка Надзя (Робэртава жонка) ды брат Міраслаў, які жыў у Расеі.

Ірэна нарадзілася ў Любачы (Заходняя Беларусь) у 1919 г. і прайшла праз цяжкое жыцьцё ў часе й пасьля Другой сусьветнай вайны перад тым, як прыехаць у Злучаныя Штаты. Ейны бацька Уладыслаў Жылінскі й маці з дому Асеўскіх былі рэпрэсаваныя ў часе сталінскіх "чыстак" 1930-х гадоў. Бацька згінуў у ГУЛАГу, а Ірэна, ейная маці, брат і сястра Лаўрэнціна былі вывезеныя на Поўнач пад Архангельск. У выніку суровых умоваў жыцьця старэйшыя дзеці памерлі, а малодшых, у тым ліку Ірэну й Лаўрэнціну, адправілі да цётак у Менск. Што сталася зь ейным старэйшым братам Міраславам, Ірэна не даведалася. А ейная маці ў 1934 г. уцякла з выгнаньня і, прайшоўшы адлегласьць больш за 1800 кілямэтраў, дабралася да Беразіна ў Беларусі. Сястра Лора выйшла замуж за Гелецкага, іх улады высялілі разам зь Ірэнінай маці ў Сібір, у Краснаярск, дзе маці й памерла.

Час вайны Ірэна, адораная тэатральнымі здольнасьцямі, правяла ў Беларусі й Польшчы, застаючыся воддаль ад палітыкі, а ўдзельнічаючы ў сцэнічных паказах у складзе тэатральнае групы. Пасьля вайны група гэтая выступала перад амэрыканскімі жаўнерамі ды перад гледачамі ў беларускіх лягерах для перасяленцаў. Тут яна пазнаёмілася з акторкамі, будучымі сваімі пажыцьцёвымі сяброўкамі Вілай Леўчук ды Верай Заруцкай.

У Нямеччыне Ірэна сустрэла свайго будучага мужа Яна Цупрыка, таленавітага хіміка з вышэйшай асьветай. Яны пражылі разам трыццаць сем гадоў аж да ягонай сьмерці ў 1983 годзе.

Калі Ірэна зь Янам прыехалі ў Амэрыку ў 1950 г., яны кароткa пажылі ў Брукліне сярод расейцаў, а пасьля, даведаўшыся пра існаваньне беларускай грамады ў Нью Джэрзі, перабраліся ў 1951 годзе ў Саўт Рывэр. Тут у іх нарадзіліся дзеці: дачка Лана ў 1952 г. і сын Робэрт у 1954-м. Заашчадзіўшы крыху грошай, яны купілі дом на Джэфры Авэню, у якім пражылі рэшту жыцьця. Ян Цупрык пайшоў на курсы хіміі, каб настрыфікаваць свой эўрапейскі дыплём. Да канца свайго працоўнага стажу ён быў хімікам у фірме Сквіб, а Ірэна працавала на швэйнай фабрыцы ў Саўт Рывэры ды займалася ўзгадоўваньнем дзяцей.

Яны абое былі сярод заснавальнікаў-будаўнікоў царквы сьв. Еўфрасіньні Полацкай і Беларуска-Амэрыканскага грамадзкага цэнтру. Ірэну ж шырока ведалі як кіраўнічку тэатральных паказаў, выдатную дэкляматарку й акторку, у тым ліку камэдыйных сцэнак. Гадамі яна забаўляла як гледачоў са сцэны, гэтак і сяброў за прыватным сталом.

Апошнімі гадамі Ірэна Цупрык выгадна жыла ў сваім доме, вetліва й з гумарам вітаючы ўсябе наведнікаў. Ейная моцная асабістасьць ужо заўважаецца ў ейнай праўнучцы.

Ірэна адыйшла з гэтага сьвету ў свой час у доме сына.

Вечная ёй памяць.

*Робэрт Цупрык*

# Віншуем сп. Лёлю Міхалюк!



15 траўня 85-гадовы юбілей адсьвяткавала шматгадовая дзейсная і цяпер ганаровая старшыня Згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі сп. Лёля Міхалюк.

Сп. Лёля разам са сваім мужам Янкам Міхалюком належалі да тых асобаў, што ў паваенныя гады заклалі пачатак беларускаму жыцьцю ў Вялікабрытаніі, нярэдка аддаючы апошняе дзеля агульнай справы. Сп. Янка доўгі час узначальваў Згуртаваньне, а пасьля ягонага адыходу ў вечнасьць пасаду старшыні пераняла сп. Лёля і плённа кіравала арганізацыяй таксама працяглы час.

Ад імя беларусаў ЗША мы сардэчна віншуем сп. Лёлю і зычым ёй шмат гадоў далейшага шчасьлівага жыцьця ў беларускай грамадзе і ў ейнай сёньня ўжо даволі вялікай сямьі, якую памножылі іхныя тры сыны.

Добрага Вам здароўя і добрага настрою, шаноўная сп. Алена!

## АБВЕСТКА

**Галоўная управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня паведамляе, што чарговы сёлетні справаздачна-выбарчы Кангрэс БАЗА *мае адбыцца ў суботу 20 чэрвеня 2015.***

*Месца правядзеньня - грамадзкая заля Сабору сьв. Кірылы Тураўскага,*

***адрас: New York, Brooklyn, Atlantic Avenue 401, пачатак працы - 12:30 pm***

## На выданьне газэты "Беларус" ахвяравалі:

**Марыя Азарко** ........ **$ 100**
*(у памяць Янкі Азаркі ў 10-ю гадавіну)*
**Янка Барысевіч (Аўстралія)** ........ **$ 40**
**Кастусь Вайцяхоўскі** ........ **$ 50**
**Марыя Ганько (Канада)** ........ **$ 100**
**Вольга Грыцук (Канада)** ........ **$ 250**
**Жэня Дубяга** ........ **$ 50**
**Ніна Дудар** ........ **$ 55**
**Ян і Надзя Запруднік** ........ **$ 100**
*(замест кветак сьв. памяці Ірэны Цупрык-Жылінскай)*
**Васіль Кузьменка** ........ **$ 50**
**Уладзімер Караткевіч** ........ **$ 50**
**Ліза Літаровіч** ........ **$ 50**
*(у памяць Ірэны Цупрык, якая адышла на 92-м годзе жыцьця)*
**Кастусь Маталыцкі** ........ **$ 60**
**Ольга Нарушэвіч (Аўстралія)** ........ **$300**
**Уладзімер Ракуць** ........ **$100**
**Наташа Сарагавец** ........ **$ 50**
**Інна Фанская** ........ **$ 50**
**Беларускі клюб у Сіднэі (Аўстралія)** ........ **$200**

***Шчырая падзяка ўсім ахвярадаўцам!***

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае:
Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне
ISSN 1054-9455
**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published by
Belarusan American Ass'n, Inc.

**СКЛАД РЭДАКЦЫІ:**
Адказны рэдактар
**Ганна СУРМАЧ**
*surmacova@gmail.com*
Скарбнік, арганізатар падпіскі
**Таня КРАСОЎСКАЯ**
*premiere718@yahoo.com*
Рэдактарка дзіцячай старонкі
**Галіна ПАДЛЕСКАЯ**
*galinapodles@hotmail.com*
Адказная за рассылку газэты
**Натальля СТАРАВОЙТАВА**

Адрас Рэдакцыі:
**BIELARUS Newspaper**
**166-34 Gothic Drive**
**Jamaica, NY 11432, USA**
Паштовы адрас:
**P.O. Box 456**
**New York, NY 10025 USA**
Электронны адрас (E-mail):
**bielarus@bazahq.org**
Кампутарная вёрстка
**Mikalai Media Productions**

*Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.*
*Грашовыя чэкі выпісываць на імя:* ***BIELARUS Newspaper*** *і дасылаць скарбніку на паштовы адрас рэдакцыі.*
***Артыкулы, падпісаныя псеўдонімамі альбо ініцыяламі, могуць зьмяшчаць погляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.***